# БОЛЬШЭВІЦКІ ДРУК





ГАЛОЎНАЕ

Ў НУМАРЫ:



МАЙ 9

1935 г.

ЖУРНАЛ ЦК КП(б)Б

Выдавецтва ЦК КП(б)Б „Звязда“

# ПАСТАНОВА ПРЭЗІДЫУМА
## ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТА БССР

ПА ДАКЛАДАХ РЭДАКЦЫЙ ЦЭНТРАЛЬНЫХ ГАЗЕТ «ЗВЯЗДА», «РАБОЧИЙ», «КАЛГАСНІК БЕЛАРУСІ», «ОРКА», «ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА» і «ОКЦЯБР» АБ РЭАГАВАННІ НА ПІСЬМЫ ПРАЦОЎНЫХ, ЗМЯШЧАЕМЫЯ Ў ДРУКУ І АДСЫЛАЕМЫЯ ГАЗЕТАМІ ЎСТАНОВАМ І АРГАНІЗАЦ. ДЛЯ РЭАГАВАННЯ.

Прэзідыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР адзначае, што на аснове допісаў працоўных цэнтральныя газеты паставілі на прынцыповую вышыню рад важнейшых палітычных пытанняў, звязаных з узмацненнем рэволюцыйнай законнасці, барацьбой за ахову соцыялістычнай уласнасці, са знішчэннем фактаў хуліганства, момантаў бюракратызма і цяганіны ў нашым апараце і т. д.

Аднак, побач з гэтым друк яшчэ недастаткова разгарнуў работу з рабсалькорамі, недастаткова настойліва і апэратыўна змагаецца за дзейнасць рабсалькораўскіх пісем і пісем працоўных.

Прэзідыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР асабліва падкрэслівае недапушчальнасць такога становішча, калі ў цэлым радзе цэнтральных і мясцовых устаноў і арганізацый справа рэагавання на пісьмы працоўных, змяшчаемыя ў друку і перасылаемыя газетамі ўстановам і арганізацыям, пастаўлена нездавальняюча: наяўнасць цяганіны пры разглядзе і вырашэнні гэтых пісем у Наркомасветы, НКЮстыцыі, НК Аховы здароўя, НКЗеме, Упаўнаважанага Наркомлеса. Асабліва дрэнна пастаўлена справа рэагавання на пісьмы працоўных у Пухавіцкім, Тапачынскім, Горацкім, Рэчыцкім, Слуцкім, Бабруйскім раёнах.

У мэтах забеспячэння своечасовага і правільнага разгляду пісем працоўных і прынацця па іх неабходных мер прэзідыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР пастанаўляе:

1. Абавязаць кіраўнікоў цэнтральных і мясцовых устаноў і арганізацый, пад іх асабістую адказнасць, на працягу двухдэкаднага тэрміна прыняць належныя меры да разгляду і вырашэння пісем працоўных змешчаных у газетах і дасланых апошнімі для рэагавання, і аб выніках паведаміць рэдакцыям.

2. Абавязаць старшынь РВК і горсоветаў сумесна з рэдакцыямі не менш аднаго разу ў квартал заслухоўваць справаздачы мясцовых устаноў і арганізацый аб іх рабоце па рэагаванню на заявы і пісьмы працоўных.

3. Абавязаць наркаматы, горсоветы, установы і арганізацыі пры правядзенні абследванняў сваіх ніжэйстаячых органаў і пры іх інструктажы звярачаць асаблівую ўвагу на пастаноўку работы па своечасоваму і правільнаму разгляду і вырашэнню пісем працоўных, змяшчаемых у друку і перасылаемых апошнім ва ўстановы і арганізацыі для рэагавання.

4. Распаўсюдзіць пастанову прэзідыума ЦВК БССР ад 5 мая 1934 года «Аб разглядзе скарг працоўных і прынацці па іх неабходных мер» (З. З. БССР за 1934 г., № 18, паст. 98) на пісьмы працоўных, змяшчаемыя ў друку і дасылаемыя друкам у належныя ўстановы і арганізацыі для рэагавання.

5. Прэзідыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР ставіць перад цэнтральным і раённым друкам, як асноўную і першачарговую задачу, далейшую работу па выхаванню і ўцягненню ў рады рабселькораўскай арміі лепшых ударнікаў вытворчасці і калгасных палёў, трымаючы з імі цесную сувязь, выхоўваючы з іх актыўных адданых барацьбітоў соцыялістычнага будаўніцтва.

6. Прымаючы пад увагу паведамленні ўсіх дакладчыкаў аб масавых карэспандэнцыях з Пухавіцкага раёна пра розныя злоўжыванні, на якія кіраўніцтва Пухавіцкага раёна не дае адказу цэнтральным газетам, даручыць Пухавіцкаму раённаму выканаўчаму камітэту неадкладна ўзяць на ўчот усе карэспандэнцыі, дасланыя газетамі ў РВК і яго аддзелы, праверыць рэагаванне на гэтыя карэспандэнцыі, устанавіць нагляд за давядзеннем да канца ўсіх спраў, узнятых па карэспандэнцыях, і асобна праверыць і паставіць работу па разгляду заяў і скаргаў працоўных, у поўнай адпаведнасці з пастановай аб гэтым прэзідыума ЦВК БССР ад 5 мая 1934 года (З. З. БССР за 1934 г., № 18, паст. 98).

Даручыць оргаддзелу прэзідыума ЦВК БССР праз месяц праверыць становішча гэтай работы ў Пухавіцкім раёне і далажыць прэзідыуму ЦВК БССР.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР А. ЧАРВЯКОЎ.
Сакратар Цэнтральнага Выканаўчага [Камітэта] БССР М. ПЯЎКОЎ.

Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# Большэвіцкі друк

МАЙ 1935 г. № 9 (33)

ЖУРНАЛ ЦК КП(б)Б

Выходзіць 2 разы ў месяц.

*Нам. адказнага рэдактара А. ЦЫПІНА*

Адрас рэдакцыі і выдавецтва: МЕНСК, Совецкая, 63, тэл. 22412

## КАДРЫ ВЫРАШАЮЦЬ УСЁ

Нязмерна вялікія задачы стаяць зараз перад усім нашым друкам у сувязі з гістарычнай прамовай т. **Сталіна** па выпуску акадэмікаў Чырвонай арміі. Гэтыя задачы вызначаюцца геніяльнейшым указаннем вялікага Сталіна, што **«З усіх каштоўных капіталаў, якія ёсць у свеце, самым каштоўным і самым рашаючым капіталам з'яўляюцца людзі, кадры. Трэба зразумець, што пры нашых цяперашніх умовах «кадры вырашаюць усё».**

— Шырокі паказ таго, як на кожным канкрэтным участку выконваецца ўказанне правадыра аб самых клапатлівых адносінах да нашых работнікаў «малых» і «вялікіх», на якім-бы ўчастку яны ні працавалі, аб клапатлівым вырошчванні іх.

— Самае жорсткае, бязлітаснае выкрыццё бяздушных, чыноўніцкіх адносін да жывых людзей, да нашых соцыялістычных кадраў, непрымірымая барацьба з бюракратамі, якія не цэняць людзей, не клапоцяцца аб іх, якія не выконваюць гістарычных указанняў т. Сталіна. Гэта толькі частка, праўда вельмі адказная частка тых задач, якія стаяць зараз перад кожнай газетай.

Кожны радок, кожнае слова ў газеце павінны быць накіраваны на выхаванне, вырошчванне і загартаванне кадраў для ўсіх участкаў нашага соцыялістычнага будаўніцтва. Іменна на гэтай задачы друку — на выхаванні, абучэнні, пашырэнні кругазору, узбраенні ведамі гэтых кадраў — зрабіў упор т. **Стэцкі** ў сваім дакладзе на ўрачыстым пасяджэнні, прысвечаным Дню друку.

З гэтай задачай значная частка нашых газет спраўляецца яшчэ вельмі дрэнна. Аб гэтым сведчыць надзвычай вузкая тэматыка многіх раённых і фабрычна-заводскіх газет, тэматыка, якая абмяжоўваецца амаль выключна гаспадарчымі пытаннямі. Партыйнае жыццё, пытанні прапаганды марксізма-ленінізма, пытанні культуры, навукі, тэхнікі, выхавання; міжнародная, саюзная, унутрыраённая, заводская інфармацыя — ўсё яшчэ рэдкія госці на старонках вялікай часткі нашых газет.

Дрэнна, надзвычай дрэнна спраўляецца яшчэ наш раённы, фабрычна-заводскі друк, газеты МТС і палітаддзелаў соўгасаў і з такой важнейшай задачай, як паказ жывых людзей. Вось цяпер, у часе сяўбы, раённыя газеты пішуць аб ходзе сяўбы ў сельсоветах, калгасах, пішуць аб лепшых брыгадах, калгасах. А вось людзей, якія заваявалі брыгадзе, калгасу, сельсовету пачэснае месца ў радах перадавікоў, на старонках газет не відаць.

**«Звязда»** занесла ўжо ў ганаровы спіс кандыдатаў на падпісанне рапарта вялікаму **Сталіну** дзесяткі брыгадзіраў з розных раёнаў Совецкай Беларусі. А вось на старонках раённых газет, газет МТС яшчэ не паказаны ва ўсю шырыню ў іх штодзеннай рабоце, вучобе, быту гэтыя знатныя людзі калгаснага будаўніцтва. Не навучыліся яшчэ нашы газеты паказваць шматлікія прыклады геройства людзей на вытворчасці, на соцыялістычных палях, на ахове свяшчэннай і недатыкальнай грамадскай

уласнасці, паказваць так, каб на гэтых прыкладах выхоўваліся і загартоўваліся тысячы рабочых, калгаснікаў, служачых — чытачоў газеты.

А паказ знатных людзей соцыялістычнага будаўніцтва з'яўляецца, асабліва зараз, пасля прамовы т. **Сталіна,** адной з асноўных і важнейшых задач нашага друку. Трэба паставіць паказ у газеце жывых людзей так, каб лепшага старшыню сельсовета, старшыню калгаса, брыгадзіра, лепшага трактарыста, сейбіта, лепшую даярку, свінарку, лепшага настаўніка, урача і т. д. ведаў увесь раён. Газеты павінны паднящь гэтых людзей на шчыт славы. Для гэтага трэба не абмяжоўвацца тым, што адзін раз напішуць аб тым ці іншым знатным чалавеку раёна. Трэба сачыць за яго работай, за яго ростам, за яго далейшымі поспехамі, шырока паказваць усё гэта на старонках газеты, клапатліва вырошчваць гэтага чалавека і на яго прыкладзе выхоўваць новыя дзесяткі і сотні знатных людзей.

Газету робяць жывыя людзі. Ад людзей, якія працуюць у газеце, ад аўладання гэтымі людзьмі тэхнікай газетнай работы, ад вырошчвання і выхавання тысяч рабселькораў залежыць, наколькі кожная газета справіцца з тымі задачамі, якія стаяць цяпер перад усім большэвіцкім друкам. **Гэтыя задачы выражаюць кадры большэвікоў-журналістаў,** тыя кадры, аб якіх пісала **«Правда»** ў сваім перадавым артыкуле «Гутарка ідзе аб сур'ёзным умацаванні газетных кадраў», аб якіх гаварыў т. **Стэцкі** ў сваім дакладзе.

Што значыць аўладанне тэхнікай работы большэвіка-журналіста?

Умець большэвіцкі завострана, глыбока партыйна ставіць пытанні на старонках газеты. Правільна ажыццяўляць лінію партыі. Умець знайсці асноўныя, найбольш важныя пытанні ў даны момант, у даных абставінах і ўзнімаць гэтыя пытанні на прынцыповую палітычную вышыню. Быць пільным, умець разглядзець і распазнаць класавага ворага, пад якой-бы маскай ён ні хаваўся. Большэвіцкая непрымірымасць да класавага ворага і яго агентуры, уменне выхоўваць людзей на барацьбе з класавым ворагам — вось што ў першую чаргу патрабуецца ад большэвіка, работніка газеты.

Большэвіцкую газету павінны рабіць большэвікі партыйныя і непартыйныя.

**«Трэба ўважліва прыглядацца к таму, хто працуе ў апараце газеты, сур'ёзна аднесціся да падбору работнікаў, паставіць справу так, каб партыйная лінія правільна ажыццяўлялася»** — сказаў т. Стэцкі у сваім дакладзе.

Між тым, у нас ёсць рад фактаў, калі з-за адсутнасці класавай рэволюцыйнай пільнасці ў асобных рэдактароў газет у рэдакцыю пралазяць класава-чужыя, варожыя нам людзі. У рэдакцыі ўваравіцкай раённай газеты працуе нехта **С. Богуш,** выключаны з партыі, як аферыст, жулік. І вось пасля таго, як Богуш быў выкрыт, як аферыст, п'яніца, жулік і выгнан з рэдакцыі спачатку полацкай, а затым і рэчыцкай газеты, рэдактар уваравіцкай газеты **О. Булко,** якая двойчы была папярэджана аб тым, хто такі Богуш, бярэ яго на работу ў рэдакцыю, шчодра друкуе яго халтурныя нарысы. Гэты агідны факт гаворыць аб палітычнай слепаце рэдактара уваравіцкай газеты, аб выключнай безадказнасці да падбору газетных кадраў.

У рэдакцыі крычаўскай раённай газеты да апошняга часу працаваў нехта **Лабар,** чалавек, які не мае партпарта, не наш чалавек.

У рэдакцыі бярэзінскай райгазеты два гады працуе сакратаром «комуніст» **Буры.** Рэдактар газеты лічыць яго калгаснікам і толькі выпадкова даведваецца, што Буры, які мае моцную серадняцкую гаспадарку, аднаасобнік. Буры кіруе раённым советам саюза бязбожнікаў, а ў хаце ў яго вісяць абразы. Гэты «комуніст» і зараз працуе сакратаром рэдакцыі.

Ці ўзяць тураўскую раённую газету, якую рэдагуе т. **Бікашоў.** Работнік газеты **Ермалкевіч** вядзе ў рэдакцыі антысовецкія разгаворы, дыскрэдытуе гаспадарча-палітычныя мерапрыемствы партыі і ўрада. Рахункаводам у рэдакцыі працуе асуджаны на два гады ўмоўна за абліванне рабочых нейкая **Комар.**

Яшчэ і яшчэ раз праверыць, хто працуе ў рэдакцыі, каму даручана такая сур'ёзная і адказная работа, як работа ў большэвіцкай газеце, выгнаць з рэдакцыі пралезшыя класава-чужыя элементы, умацаваць газету праверанымі, моцнымі работнікамі — першачарговая

задача райкомаў партыі і рэдактароў газет.

Другая задача — гэта клапатліва выхоўваць і вырошчваць тыя кадры нашых, сумленных работнікаў, якія ёсць у рэдакцыі. А з гэтым ва многіх рэдакцыях яшчэ не ўсё добра. Возьмем хоцьбы лёзненскую раённую газету. Нядаўна ўзятаму ў рэдакцыю камсамольцу **Шуранкову** ніхто не дапамагае, не вучыць, яго трымаюць на пабягушках. Кандыдату партыі т. **Нячаевай**, якая нядаўна прышла ў рэдакцыю, таксама ніхто не дапамагае. Ніякай вучобы ў рэдакцыі няма. А такое становішча не толькі ў рэдакцыі лёзненскай газеты.

З такім становішчам трэба раз назаўсёды пакончыць. Рэдактары газет абавязаны штодзенна праводзіць у жыццё ўказанне т. Сталіна аб клапатлівым вырошчванні людзей, дапамозе ім і т. д. Трэба арганізаваць унутрырэдакцыйную вучобу.

**«Работнікі друку павінны нястомна вучыцца. На жаль, многія лічаць, што калі два гады папрацаваў рэдактарам газеты, то ён ужо майстар на ўсе рукі. ён ужо «заслужаны», яму і мора па калені. Нічога няма горш такога зазнайства. Газета патрабуе высокай культуры, вялікіх ведаў, палітычнай граматнасці, саліднай падрыхтоўкі».**

Гэтыя словы т. Стэцкага павінны добра ўсвоіць усе работнікі газет, у першую чаргу рэдактары. Нястомна вучыцца самому і вучыць сваіх работнікаў — вось што патрабуецца ад рэдактара.

Лозунг: «Кадры вырашаюць усё» перад нашым друкам ставіць яшчэ адну асабліва важную задачу: выхоўванне і вырошчванне кадраў для бальшэвіцкага друку з рабселькораў.

**«Гутарка ідзе аб вылучэнні ў друк і сур'ёзным навучанні вялікага ліку рабочых і сялянскіх карэспандэнтаў, прайшоўшых рабселькораўскую школу сувязі з газетай» («ПРАВДА»).**

Па прыкладу рэдакцыі барысаўскай райгазеты трэба арганізаваць інстытут сацнамеснікаў з лепшых актывістаў-рабселькораў, штодзенна кіраваць імі, клапатліва вырошчваць іх. Па прыкладу аршанскай газеты трэба арганізаваць сур'ёзную вучобу рэдактароў пізавых газет і рабселькораў. Уважліва вывучаць кожнага рабселькора, заахвочваць яго першыя поспехі, аказваць яму патрэбную дапамогу, цярпліва і чула выпраўляць яго памылкі — гэтаму павінны навучыцца ўсе работнікі нашых газет. Трэба паставіць справу так, каб кожны рэдактар, кожны работнік газеты лічыў гонарам для сябе мець права рапартаваць: за такі і такі перыяд мы вырасцілі столькі і столькі людзей, работнікаў для бальшэвіцкага друку з актыва рабселькораў, такіх і такіх людзей мы ўжо вылучылі на работу ў рэдакцыю і клапатліва выхоўваем іх зараз.

І, нарэшце, пра штодзенныя клопаты аб кожным работніку газеты, «малым» і «вялікім». Гэтай увагі, гэтых клопатаў аб работніках друку няма яшчэ ў некаторых раёнах. Сёння мы друкуем матэрыял з Добрушскага раёна, дзе намеснік рэдактара т. **Рацько** ўжо два месяцы не мае кватэры, не прымацован да сталоўкі і т. д. Не мае кватэры і рэдактар уздзенскай райгазеты т. **Клімаў** і намеснік рэдактара плешчаніцкай райгазеты т. **Жук**. Так Добрушскі, Уздзенскі і Плешчаніцкі райкомы партыі і райвыканкомы клапоцяцца аб асноўных кадрах сваіх газет. І гэта пасля перадавога артыкула «Праўды» аб газетных кадрах.

Нецярпіма і такое становішча, калі рэдактара добрушскай газеты райком партыі трымае ўвесь час у сельсовеце ў якасці ўпаўнаважанага РК, што ў якасці ўпаўнаважанага райкома трымаюць у сельсовеце намесніка рэдактара ўшацкай райгазеты. Такіх прыкладаў нямала. Неабходна, нарэшце, зразумець сакратарам гэтых райкомаў, што за работу газеты, за падбор і вырошчванне кадраў газетных работнікаў адказвае ў першую чаргу райком партыі.

**«Толькі тыя кадры добрыя, якія не баяцца труднасцей, якія не хаваюцца ад труднасцей, а наадварот, ідуць насустрач труднасцям для таго, каб перамагчы і ліквідаваць іх» (СТАЛІН).**

Вырасціць такія кадры бальшэвікоўжурналістаў для друку ордэнаноснай БССР — такава задача усіх партыйных арганізацый, усяго нашага бальшэвіцкага друку.

# ЗРАБІЦЬ ДРУК
## ЯШЧЭ БОЛЬШ ВОСТРАЙ ЗБРОЯЙ ПАРТЫІ

**Даклад тав. А. І. СТЭЦКАГА на ўрачыстым сходзе, прысвечаным дню друку, у Калоннай зале Дома Саюзаў 5 мая 1935 года.**



Спатканы працяжнымі апладысментамі, тав. **Стэцкі** пачынае свой даклад з указання на адрозніваючыя рысы бягучага перыяда, у якім мы жывем, гэта— далейшае ўмацаванне соцыялістычнага будаўніцтва і разгортванне совецкай дэмакратыі. Адсюль—новая задача—выхаванне людзей, актыўных будаўнікоў соцыялістычнага грамадства. Гэтай задачы павінна быць падпарадкавана ўся работа друку.

Кожны год мы адзначаем дасягненні нашай большэвіцкай прэсы, рост узелу ў ёй працоўных мас.

Асабліва яркі поспехі нізавога друку. Не так даўно фабрычна-заводскія газеты былі навінкай. Цяпер на прадпрыемствах выдаюцца не толькі пяцідзенныя газеты, а і штодзенныя, якія змяшчаюць палітычную інфармацыю, асвятляюць пытанні вытворчасці і культуры. За апошні час узнікла каля поўмільёна брыгадных газет на прадпрыемствах, у калгасах, у часцях Чырвонай арміі. Гэтыя газеты пакуль невялікія па аб'ёму, элементарныя па зместу, але робяцца з вялікай любоўю і старраннасцю і без іх не можа пражыць ні адно прадпрыемства, ні адзін калгас. Гэты друк з'яўляецца сведчаннем выключнага разгортвання совецкай дэмакратыі. Нідзе, ні пры якім іншым ладзе, нямыслім такі друк. У нашым друку рабочыя, калгаснікі, чырвонаармейцы абмяркоўваюць цікавячыя іх пытанні, змагаюцца за выхаванне соцыялістычных адносін да працы, адзначаюць парасткі новага і выкрываюць нягоднае. Нашы газеты аб'ядноўваюць мільёны рабселькораў. Новыя аўтары з'явіліся і ў кніжнай справе. За апошні год вышаў цэлы рад выданняў, атрымаўшых шырокую папулярнасць. Гэтыя кнігі расказваюць аб подзвігах людзей Совецкага Саюза, аб лепшых вытворчасцях і ўзорных гаспадарках. Гэтыя кнігі пішуць непасрэдныя ўдзельнікі соцыялістычнага будаўніцтва. Да гэтых выданняў адносяцца кнігі **аб чэлюскінцах, «Были горы Высокой», «Мастера социалистического земледелия», «База курносых»**. Вядома, гэтыя кнігі не ўзнікаюць стыхійна. Яны ствараюцца на аснове калектыўнай работы, супрацоўніцтва пісьменнікаў і аўтараў. Пісьменнікі прыходзяць на дапамогу новым аўтарам—героям Совецкага Саюза, рабочым і калгаснікам—і надаюць іх матэрыялу літаратурную форму. Значэнне гэтых кніг велізарнае, і недарма яны атрымліваюць шырокае распаўсюджанне і выходзяць вялікімі тыражамі.

За апошні час ёсць дасягненні ў якасці, змесце кніг, павялічыўся выпуск мастацкай літаратуры, літаратуры для дзяцей і, нарэшце, самае важнае—моцна вырасла выданне кніг Маркса, Энгельса, Леніна і Сталіна. Гэтыя кнігі, якія складаюць жалезны інвентар марксісцка-ленінскай тэорыі, выпускаюцца ў мільёнах і мільёнах экземпляраў. Твораў

Маркса і Энгельса ў мінулым годзе было выдана 1.400 тысяч экземпляраў, у гэтым годзе выйдзе 1.510 тыс. Леніна ў 1934 годзе выдана 4 млн., сёлета будзе 7.855 тысяч экз. Твораў Сталіна ў мінулым годзе выпушчана 13.320 тыс. экземпляраў, з іх «Вопросов ленинизма» — 700 тысяч экземпляраў. У гэтым годзе «Вопросы ленинизма» выйдуць у колькасці 2 млн. экземпляраў. Друкарні сталі даваць лепшую прадукцыю. Трэба асабліва адзначыць першую ўзорную друкарню і друкарню «Красный пролетарий» (Масква).

Патрабаванні к друку ўзрастаюць з кожным годам. Таму асабліва нецярпімы неахайныя, няўважлівыя адносіны да кніг ў некаторых выдавецтвах. Звычайны размовы—не хапае паперы, з гэтымі размовамі прыходзіць любы выдавец, любы рэдактар газеты. Верна, тыражы малы, іх трэба павялічыць, і ясноўны шлях да гэтага—рашучая ліквідацыя халтуры ў нашых выдавецтвах. Часта бывае так—кніга выходзіць, а яе прыходзіцца адпраўляць на папяровую фабрыку. У гэтым годзе па Сельгасвыдату спісаны ў макулатуру 6 назваў кніг, Соцэквыдату—17, «Молодой гвардии»—6, ленінградскіх выдавецтвах — 35. За 1934 год спісана макулатуры на 6 млн. руб. Гэта лічба грунтоўна, і яна прымушае прызадумацца. За выдавецкай работай павінен быць устаноўлен цвёрды кантроль. Гарадскія і абласныя камітэты партыі абавязаны сачыць за выдавецкай работай, умець карыстацца гэтай астрэйшай зброяй партыі. Тут захоўваюць сваю сілу ўказанні Уладзіміра Ільіча Леніна аб кантролі над выдавецкай работай.

Паасобныя выдавецтвы ў нас яшчэ дзейнічаюць па прынцыпу «писатель пописывает, читатель почитывает». Выдавецтва навукова-тэхнічнай літаратуры, напрыклад, выпускала для ВТНУ і ВНУ дзесяткі падручнікаў па вышэйшай матэматыцы, якія не адпавядалі праграмам. Камітэт па вышэйшай тэхнічнай школе ўстанавіў, што многія з гэтых падручнікаў не патрэбны. З такой расхлябанасцю, няўменнем арганізаваць справу трэба змагацца. Выдавецтвы павінны па-сапраўднаму арганізаваць сваю справу. Партыйныя арганізацыі павінны па-сапраўднаму ёю кіраваць. Гэтага патрабуе цяперашняя абстаноўка.

Зараз з асаблівай вострасцю высоўваюцца задачы выхавання мас, бо мы шчыльна падыходзім да пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства. На працягу гэтых гадоў наша партыя, зламаўшы супраціўленне класавага ворага і яго апартуністычную агентуру, вырвала нашу краіну з адсталасці, стварыла новую тэхніку. Соцыялістычная прамысловасць цяпер на моцных нагах. Рушылася наперад арганізаваная соцыялістычна сельская гаспадарка. Створаная партыяй тэхніка дазваляе рабіць любыя машыны і ў любой колькасці.

Таварыш Сталін нястомна падкрэслівае, што неабходна ўзмацніць увагу выхаванню людзей, што неабходна беражліва адносіцца да кадраў, клапаціцца аб іх выросчванні. Калі брыгадзіры і майстры на вытворчасці, дырэктары і інжынеры, старшыні і брыгадзіры калгасаў палепшаць кіраўніцтва, то наша прамысловасць і сельская гаспадарка пры існуючай тэхніцы могуць даць рэзультаты ў два-тры разы большыя. Справа, значыць, заключаецца ў выхаванні, навучанні, расшырэнні кругазору, узбраенні ведамі гэтых людзей. Адсюль і задачы друку. Раней ён займаўся выключна гаспадарчымі кампаніямі. Справа дайшла нават да ліквідацыі палітычнай інфармацыі, у некаторых газетах змяшчаліся толькі гаспадарчыя зводкі. Зараз так весці справу нельга. Хто так яе вядзе, той не разумее цяперашняга моманта. Нельга весці справу так, як вядзе яе, напрыклад, газета «Грозненский рабочий». Яна не можа паскардзіцца на недахват паперы, фармат яе большы за «Известия», а чытаць няма чаго. Рэдактар і рэдакцыйныя работнікі не клапоцяцца аб якасці газеты. У ёй вы знойдзеце пытанні вытворчасці, сяўбы—гэта добра, але ўсё аб жыцці партыйнай арганізацыі ў Грозным, аб партыйна-выхаваўчай рабоце чытачы даведваюцца з «Правды». Возьмем «Казахстанскую правду» і «Челябинский рабочий». Гэтыя газеты робяцца некалькі лепш, але пытанні партыйнай работы, пытанні культуры, выхавання, прапаганды марксісцка-ленінскай тэорыі ў іх таксама адсутнічаюць. А чаго патрабуюць чытачы? У сёнешніх нумарах маскоў-

скіх заводскіх газет у адказ на анкету чытачы патрабуюць ад газеты, каб яна не толькі палепшыла асвятленне пытанняў вытворчасці і партыйнай работы, але і давала літаратурны фельетон, паведамляла аб новых кнігах, кіно-карцінах, аб пастаноўках у тэатрах і ў заводскім клубе. Вось патрабаванні, якія прад'яўляюць чытачы да работнікаў друку. А ў нас ёсць абласныя газеты, якія гэтыя запросы ігнаруюць. Чытач хоча ведаць, што робіцца за граніцай, ён патрабуе інфармацыі аб культурным будаўніцтве, ён патрабуе растлумачэння пытанняў палітыкі і тэорыі, і рэдактар газеты павінен быць на вышыні, ён павінен улічваць рознастайнасць запросаў чытача, ісці яму насустрач, дапамагаць яму расшыраць кругазор, падымаць яго палітычную свядомасць. Часамі ў гэтых адносінах заводскі друк паказвае прыклад абласным газетам. У прыватнасці газета «Догнать и перегнать» маскоўскага аўтазавода імя Сталіна асвятляе не толькі пытанні вытворчасці, але і партыйнае жыццё, пытанні культуры, дае агляд насценных газет, рэцэнзіі на спектаклі. Такога-ж тыпу газета «Мотор» на заводзе «Дынамо» імя Кірава і «Ударник метростроя». Гэта—газеты, якія паважаюць чытача, стаяць на палітычнай вышыні, працуюць старанна над якасцю кожнай заметкі, кожнага артыкула. З краявых газет прыкладам у гэтых адносінах з'яўляецца «Заря Востока» (Тіфліс).

Газета павінна выхоўваць людзей на прыкладах барацьбы з класавым ворагам, выкрываць гэтага ворага. На жаль, самі рэдактары дапускаюць часамі ў газету чужых людзей. Зусім нядаўна быў выпадак з ульянаўскай газетай, у рэдакцыі якой дзейнічала шайка антысавецкіх людзей, скарыстаўшых друк для дыскрэдытацыі соцыялістычнага будаўніцтва. Рэдактар-камуніст аказаўся «шляпай», ратазеем. Ён друкаваў антысавецкую бязглуздзіцу, не бачыў прошукаў класавага ворага. Трэба ўважліва прыглядацца к таму, хто працуе ў апараце газеты, сур'ёзна адносіцца да падбору работнікаў, паставіць справу так, каб партыйная лінія правільна ажыццяўлялася.

У нашых работнікаў друку часамі адсутнічае павага да чытачоў. Што, напрыклад, робіцца з журналамі? Многія з іх варта занесці на чорную дошку за непавагу да падпісчыка. Існуе такі пасажаны журнал «Под знаменем марксизма»—яго першы нумар за 1935 год выйшаў у сярэдзіне красавіка, журнал «Проблемы экономики» першым нумарам выпушчан у канцы красавіка. Літаратурна-мастацкія журналы: «Красная новь», «Молодая гвардия», «Октябрь» вышлі першым нумарам у сярэдзіне сакавіка, а не ў студзені. Гэта—здзек з адносінах да падпісчыкаў. За гэта трэба біць.

Важны момант—арганізацыя кніжнага гандлю. На кнігу ёсць вялікі попыт. Партыйныя арганізацыі за апошні час узмоцнена займаюцца пытаннямі разгортвання савецкага гандлю, а гандаль кнігамі пастаўлен **агідна.** У Маскве ёсць два ўзорныя кніжныя магазіны і адзін па дзіцячай кнізе, але яны ўзорныя пакуль толькі па назве. Няма добрага магазіна, які быў-бы забяспечан сапраўды ўсімі кнігамі. Існуе да гэтага часу «парадак» бюракратычнага размяркавання кніг. У выніку часамі кніга не даходзіць да чытача, прападаючы ў шчылінах гандлёвага апарата. Так, напрыклад, кнігі Шолахава «Поднятая целина» з 100-тысячнага тыражу атрымана менскім цэнтральным кніжным магазінам **367 экземпляраў.** З гэтых 367 экз. арганізацыям прадана 217 экз. Аднак і астатнія 150 экз. амаль поўнасцю папалі не шырокаму спажыўцу, а абмежаванай групе прымацаваных да магазіна «па асобнаму спісу» і ў продаж не пашлі.

З гэтымі агіднасцямі, з гэтым прамым раскрадваннем кніг неабходна пакончыць, трэба, каб партыйныя арганізацыі і органы кантролю звярнулі, нарэшце, на гандаль кнігай сваю ўвагу.

Работнікі друку павінны нястомна вучыцца. На жаль, многія лічаць, што калі два гады папрацаваў рэдактарам газеты, то ён ужо майстар на ўсе рукі, ён ужо «заслужаны», яму мора па калені. Нічога няма горш такога зазнайства. Газета патрабуе высокай культуры, вялікіх ведаў, палітычнай граматнасці, салідная падрыхтоўкі. У сваім праграмным артыкуле «Партийная ор-

ганизация и партийная литература» Ленін пісаў:

«Гэта будзе свабодная літаратура, апладатвараючая апошняе слова рэвалюцыйнай мыслі чалавецтва вопытам і жывой работай соцыялістычнага пролетарыята, стварающая пастаяннае ўзаемадзеянне паміж вопытам мінулага (навуковы соцыялізм, завяршыўшы развіццё соцыялізма ад яго прымітыўных утапічных форм) і вопытам сучаснага (цяперашняя барацьба таварышоў рабочых)». (**Ленін**, т. VIII, стр. 390).

Вось як моцна ставіў Уладзімір Ільіч пытанне аб узаемаадносінах у літаратурнай справе тэорыі і вопыта бягучай барацьбы.

Трэба, каб нашы газетныя работнікі падымалі сваю кваліфікацыю, прадаўжалі вучыцца, авалодвалі марксісцка-ленінскай тэорыяй. Для гэтага ўсе ўмовы ёсць. І трэба падтрымаць пачын «Комсомольской правды», якая арганізавала тэарэтычныя семінары для сваіх супрацоўнікаў. Трэба заклікаць усіх работнікаў друку к таму, каб яны, авалодваючы марксісцка-ленінскай тэорыяй, зрабілі наш друк яшчэ больш вострай, яшчэ больш моцнай зброяй у руках партыі Леніна—Сталіна **(Працяжныя апладысменты).**

---

## ЛЕПШ АСВЯТЛЯЦЬ ПАРТЫЙНАЕ ЖЫЦЦЁ

* * *

# ДРЭННЫ ПАМОЧНІК ПАРТАРГАНІЗАЦЫІ

15 студзеня вышаў другі нумар шматтыражкі завода імя Кірава (Менск). У артыкуле пад загалоўкам: «У аснову партмасавай работы—жывы чалавек»—газета паставіла такую задачу:

> **«Дапамагчы парторгам аўладаць тэхнікай партыйнай работы... накапляць вопыт работы на сваім участку, вопыт работы з жывым чалавекам, забяспечыць узорную пастаноўку палітмасавай і партвыхаваўчай работы».**

Як бачыце, задача пастаўлена вельмі важная і вельмі ўдзячная. Парторгі, радавыя комуністы ды і мы разам з імі ўсялякі віталі-б **«Кіравец»** і яго рэдактара таз. **Асаёнак**, калі-б яна папрацавала над практычным вырашэннем пастаўленай задачы. Гэта значыць, што трэба было паказаць на старонках газеты вопыт лепшага парторга (а такія на заводзе ёсць) з тым, каб вучыць астатніх парторгаў, трэба было дапамагчы парторгам выявіць прычыны неналадвання школы партвучобы многімі комуністамі, аб чым так часта скардзяцца прапагандысты праз газету, праверыць рад іншых мерапрыемстваў. Іменна гэтага мы шукалі ў наступных нумарах «Кіраўца».

Але ў наступным нумары мы знаходзім толькі заметку загадчыка парткабінета тав. **Свірынскай** аб партвучобе. Заметка агульная, ніякай дапамогі ні парторгу, ні радавому комуністу не дае. А ў наступных двух нумарах аб партыйнай рабоце зусім ні слова.

Рашэнне пленума Ленінградскага гаркома ВКП(б), рад перадавых артыкулаў **«Праўды»** і пастановы красавіцкага пленума ЦК КП(б)Б зрабілі значны зрух у рабоце партыйных арганізацый. Парткомы, парторгі сталі больш і лепш займацца пытаннямі ўнутрыпартыйнай работы, палітычным выхаваннем комуністаў. Лепш сталі падрыхтоўваць партыйныя дні, больш сталі цікавіцца работай школ і гурткоў. Партарганізацыя завода імя Кірава ў перабудове партыйнай работы займае адно з перадавых месц у менскай партыйнай арганізацыі. Вядома, што партком завода імя Кірава праводзіў значную работу па ўмацаванню партыйнай работы ў цэху (складанне планаў работы цэхпарторгаў, вучоба парторгаў). Але калі судзіць па матэрыялах, змешчаных за апошнія два месяцы ў шматтыражцы «Кіравец», можна зрабіць такі вывад, што ніякіх змен у рабоце партыйнай арганізацыі не адбылося.

13 красавіка ў «Кіраўцы» змешчан перадавы «Праўды» «Большавіцкі размах партыйнай рабоце» і пастанова парткома аб практычных мерапрыемствах па рэалізацыі рашэнняў Ленінградскага гаркома ВКП(б). Партком робіць круты паварот да партыйных пытанняў. Намячаецца шырокая праграма работы. Газета тут павінна быць першым памочнікам партыйнай арганізацыі. Але пасля змяшчэння гэтых матэрыялаў газета для сябе не зрабіла ніякіх вывадаў. Скупа і нецікава асвятляе газета партыйнае жыццё і пасля рашэнняў Ленінградскага гаркома і пасля рашэнняў красавіцкага пленума ЦК КП(б)Б і пасля спецыяльнага перадавога артыкула «Праўды»—«Лепш асвятляць партыйнае жыццё».

У чым галоўныя памылкі «Кіраўца» ў асвятленні партыйнай работы? Першае. Рэдактар «Кіраўца» тав. Асаёнак не бачыць шматграннасці партыйнай работы, партыйнага жыцця. Іменна таму яна асвятленне партыйнага жыцця зводзіць толькі да партыйнай вучобы. Асвятляць партыйную вучобу безумоўна трэба, але гэта толькі адна галіна (праўда, вельмі важная) партработы.

Нам вядома, што ў некаторых цэхах завода імя Кірава б'е ключом партыйнае жыццё. Некаторыя парторгі (**Кацовіч** і інш.) ніядрэнна працуюць са спачуваючымі, добра падрыхтоўваюць і праводзяць партдні, удала ажыццяўляюць рад іншых партыйных мерапрыемстваў. І ўсё гэта на старонках «Кіраўца» не знаходзіць месца, бо рэдактар не звязан з камуністамі, з парторгамі, не ведае таго, што робіцца ў партгрупах. Гэта відаць хоць-бы з таго, што тыя нямногія заметкі, якія змешчаны ў газеце аб партыйнай вучобе і па іншых пытаннях партыйнага жыцця, напісаны выключна прапагандыстамі або работнікамі парткома. Радавога-ж камуніста, парторга, кандыдата партыі, спачуваючага ў газеце няма.

Трэба падкрэсліць адзін характэрны момант. У некалькіх артыкулах, змешчаных у «Кіраўцы», па тэму аб партыйнай вучобе гаворыцца ўвесь час аб тым, што многія камуністы не наведваюць партыйную вучобу. Аўтары гэтых артыкулаў (у большасці прапагандысты), не выкрываючы прычын гэтага, патрабуюць ад парткома жорсткіх мер і т. д. А варта было толькі «Кіраўцу» звярнуцца да камуністаў, наведваючых школы, і адразу на старонках газеты сталі выяўляцца прычыны, чаму камуністы не хочуць наведваць школу.

**«На занятках хочацца спаць»,**—піша камуніст **Соскін** у сваёй заметцы, змешчанай у газеце 13 красавіка. Тут-жа таварыш Соскін раіць, што трэба рабіць для таго, каб заняткі былі больш цікавыя, каб слухачы лепш наведвалі.

**«Трэба кіраўніку перабудаваць сваю работу, — раіць тав. Соскін, — больш знаёміцца з заводам, слухачамі, не абмяжоўвацца толькі падручнікамі, а даваць нам больш вытрымак з Леніна, Сталіна, прыводзіць характэрныя прыклады з мастацкай літаратуры. Трэба адмовіцца ад сухіх лекцый, а думаць над тым, каб заняткі ажывіць».**

Аказваецца, што прычына не ў нежаданні камуністаў займацца, прычына ў няўмелым выкладанні, у няўмелай рабоце самі́х прапагандыстаў.

Цяпер «Кіравец» зрабіў некаторы паварот у асвятленні партыйнай вучобы. Але зноў такі вельмі мала паказваюцца жывыя людзі, зусім не адводзіцца месца паказу таго, як жывуць, працуюць камуністы, як яны растуць, як ім дапамагаюць у гэтым парторгі, партыйны камітэт. Між тым, нам вядома, што ў гэтых адносінах партыйная арганізацыя завода імя Кірава сёе-тое ўжо зрабіла.

Адстае «Кіравец» ад жыцця і работы сваёй партыйнай арганізацыі. Дрэнны ён памочнік парткому, парторгам і асобным камуністам.

# АСВЯТЛЕННЕ ПАРТЫЙНАГА ЖЫЦЦЯ ПАСТАЎЛЕНА НЕЗДАВАЛЬНЯЮЧА

Апошні пленум ЦК КП(б)Б падкрэсліў, што пытанне аб арганізацыйна-партыйнай і палітыка-выхаваўчай рабоце ў сельскіх партыйных арганізацыях ёсць у асноўным пытанне аб рабоце з комуністамі адзіночкамі. Пленум падкрэсліў, што партыйныя сходы комуністаў-адзіночак павінны з'явіцца адной з асноўных форм палітычнага выхавання гэтых комуністаў.

Як-жа гэту дырэктыву пленума ЦК ажыццяўляе **«Рэчыцкая праўда»?**

4 мая газета дала першы артыкул аб куставым сходзе адзіночак-комуністаў. Здавалася-б, што ў гэтым артыкуле газета абавязана была паказаць змест гэтага схода, які прысвечан рабоце адзіночак-комуністаў, паказаць, як падрыхтоўваўся сход, яго дадатныя і адмоўныя бакі. Аднак, газета абмежавалася агульнай інфармацыяй.

Яна расказвае:

> **«На сходзе рабілі справаздачы аб павышэнні свайго палітычнага ўзроўню комуністы-адзіночкі Бажко і Навіцкі. Справаздачы паказалі, што Бажко і Навіцкі не працуюць над павышэннем свайго палітычнага ўзроўню. Партыйную школу наведваюць нерэгулярна, палітычна-масавая работа сярод калгаснікаў у заняпадзе, рашэнняў партыі і ўрада не чытаюць і не прапрацоўваюць сярод калгаснікаў. У выніку палітычны ўзровень комуністаў Бажко і Навіцкага нізкі».**

Хто вінаваты ў тым, што комуністы Бажко і Навіцкі не працуюць над павышэннем свайго ідэйна-палітычнага ўзроўню, што іх авангардная роля ў калгасе не адчуваецца? Газета забыла ўказанні 17 партыйнага з'езда аб тым, што ў цэнтры ўвагі работы партыйных арганізацый павінен быць комуніст, што «рост члена партыі залежыць ад пастаноўкі ўнутрыпартыйнай работы, залежыць ад увагі да члена партыі і ад таго, як ім кіруюць».

Як партарганізацыя кіруе комуністамі Бажко і Навіцкім — газета не сказала.

У другім артыкуле (нумар ад 9 мая) «Першыя крокі перабудовы партыйнай работы ў вёсцы» газета гаворыць, што:

> **«Індывідуальныя справаздачы паказалі, што асобныя комуністы нядрэнна наведваюць заняткі, даволі здавальняюча засвойваюць гісторыю партыі (Шмідт, Сівкоў, Смольскі)».**

Калі сапраўды гэтым комуністам створаны ўмовы для работы над сабой, чаму аб іх не расказаць? Чаму газета не палічыла патрэбным паказаць, як комуністы Шмідт, Сіўкоў, Смольскі арганізавалі сваю работу, як яны працуюць над павышэннем свайго палітычнага ўзроўню, з тым, каб для Бажко і Навіцкага і ім падобных, якія не выконваюць другі пункт статута партыі, было зразумела, як трэба арганізоўваць свой час, як трэба вучыцца?

Газета павінна была ўзняць пытанне аб дапамозе тым комуністам, якім самім цяжка працаваць над сабой. Толькі тады комуністы адчувалі-б дапамогу газеты. Але газета гэтага не робіць. Газета забыла і аб тым, што вопыт лепшай работы партыйных арганізацый неабходна папулярызаваць, распаўсюджваць. У гэтым-жа артыкуле гаворыцца:

> **«Кустовыя партыйныя сходы комуністаў-адзіночак маюць вялікае значэнне для большэвіцкага выхавання членаў і кандыдатаў партыі. Комуністы, працуючыя на вёсцы, аддалены ад раённага цэнтра, ад партыйных арганізацый. Для іх такія сходы маюць выключнае значэнне».**

А вось паказаць значэнне праведзенага схода газета забыла. Яна толькі сказала, што

> **«сходам быў прынят рад канкрэтных прапаноў па выкараненню маючыхся недахопаў».**

Чаму не расказаць аб асноўных мерапрыемствах, якія намеціў кустовы сход комуністаў Караваціцкага сельсовета для таго, каб лепшыя з іх былі перанесены ў другія арганізацыі, у работу з другімі комуністамі-адзіночкамі раёна. Газета абавязана была гэта зрабіць. Але яна абмежавалася толькі ўпамінаннем



аб адным з гэтых рашэнняў — аб арганізацыі палітдзён у калгасах.

Гэта ўсё, што газета сказала аб рабоце комуністаў-адзіночак за два апошнія месяцы. Калі праглядаеш старонкі газеты, складаецца ўражанне, што пытанні партыйнай работы выпадкова пападаюць у газету, што газета не жыве тымі актуальнымі пытаннямі, якія хвалююць партыйную арганізацыю раёна.

Яркім пацвярджэннем гэтага з'яўляецца пытанне партыйнай вучобы. У «Рэчыцкай праўдзе», апрача паведамлення аб тым, што комуністы Навіцкі і Бажко не працуюць над павышэннем свайго тэарэтычнага ўзроўню, былі сігналы аб тым, што ў Гарвальскім сельсовеце партыйная вучоба зрываецца (13 красавіка), што ў партгрупе пры Падалецкім сельсовеце заняткі спыніліся (22 красавіка). Нарэшце, аб пагражаючым становішчы з партыйнай вучобай у раёне гаворыць і факт, паказаны ў газеце за 17 красавіка, з справаздачы на бюро райкома комуніста-адзіночкі Сурта, які заявіў, што за ўсю зіму толькі два разы наведаў партыйныя заняткі.

Гэтых фактаў даволі для таго, каб газета магла зрабіць для сябе вывад і ўзняць пытанні партыйнай вучобы на прынцыповую палітычную вышыню, паказаць канкрэтных віноўнікаў зрыву заняткаў і патрабаваць ад райкома партыі рэагавання.

У выкананні комуністамі другога пункта статута партыі не павінна быць ніякіх перашкод. І газета абавязана дапамагчы ў гэтым партыйнай арганізацыі, кожнаму комуністу ў паасобку.

У Рэчыцкім раёне ёсць значная колькасць партарганізацый фабрык і заводаў. Вучобай комуністаў гэтых арганізацый газета таксама не палічыла патрэбным заняцца. А трэба лічыць, што некаторы вопыт партыйнай вучобы ў гарадской сетцы партасветы можна было-б перанесці ў вясковую арганізацыю. Не паставіла газета і асноўнага пытання партыйнай вучобы — вывучэння гісторыі партыі, асабліва пасляоктябрскага перыяда.

Газета павінна ўлічыць, што асабліва цяпер нельга ні ў якім разе абмяжоўвацца толькі арганізацыйнай пастаноўкай пытання марксісцка-ленінскага выхавання (хоць газета і гэтага не зрабіла). Зараз неабходна глыбока паказаць ідэйны змест, якасць партыйнай вучобы. Трэба паказаць надрыхтоўку прапагандыстаў, слухачоў, якая забяспечвае ідэйна-палітычную насычанасць распрацоўвання ў школе, гуртку тэмы з тым, каб дапамагчы выправіць недахопы.

---

# Адкрытае пісьмо

## *Рэдактару Ельскай раённай газеты*

## „Большэвіцкі змагар"

Тав. Сідарук!

Гэтымі днямі, праглядаючы камплект газеты **«Большэвіцкі змагар»**, я даведаўся, што ты рэдагуеш гэту газету.

Я быў здзіўлены і ўзрадаван. Здаецца гэта было зусім нядаўна, калі мы ў **«Чырвонай змене»** атрымлівалі карэспандэнцыі актыўнага юнкора з Гомеля **Віт. Сідарука**, а зараз ты—рэдактар газеты. Праўда, прайшло больш пяці год, але ўсё-ж такі як быстра растуць у нас людзі!

Прагледзеўшы газету, я рашыў напісаць табе пісьмо. І напісаць толькі па аднаму пытанню.

Твой подпіс з'явіўся ў газеце 20 красавіка. У нумары перад гэтым, за 15 красавіка, першая старонка была прысвечана ўнутрыпартыйнай рабоце. На гэтай старонцы ёсць і перадавы артыкул па ўнутрыпартыйнай рабоце, і справаздача аб адным партыйным сходзе, заметка аб агітацыі, наогул досыць разгорнуты матэрыял.

Я не буду спыняцца на якасці матэрыялу. У ім многа недахопаў.

Але зараз не аб гэтым. У наступным нумары, які падпісваеш ты, **ні аднаго** слова аб унутрыпартыйнай рабоце няма, апрача артыкула тав. **Лейзера** «Урокі Ельска» (між іншым, чаму не ўказалі крыніцу, адкуль перадрукавалі?) і інфармацыі «У ЦК ВКП(б)».

У наступных нумарах за 25 і 28 красавіка зноў аб унутрыпартыйнай рабоце ні радка. У нумары ад 1 мая вы друкуеце частку пастановы пленума ЦК КП(б)Б аб «Задачах партыйна-арганізацыйнай і палітыка-выхаваўчай работы ў КП(б)Б». Канец пастановы вы абяцалі надрукаваць у наступным нумары. Між тым, у наступным нумары за 5 мая я канца пастановы так і не знайшоў. Значыць, чытачы «Бальшэвіцкага змагара» на працягу 10 дзён не маглі пазнаёміцца з поўным зместам пастановы пленума ЦК.

Я ведаю, ты скажаш, што ёсць вельмі многа матэрыялу, што надзвычай многа прыходзіцца друкаваць пастаноў і іншых афіцыяльных матэрыялаў, што газета не гумовая, яе не расцягнеш і інш.

Але гэта не так.

Уважліва прагледзь газету і ты ўпэўнішся, што досыць многа газетнай «жылплошчы» прападае.

А асноўнае—трэба не забываць, што газета—орган райкома партыі. Яна абавязана шырока асвятляць партыйнае жыццё.

Ці ведаюць камуністы-адзіночкі, акія знаходзяцца далёка ад раённага цэнтра, чым займаецца раённы камітэт партыі? Ці ў курсе яны ўсяго жыцця партыйнай арганізацыі?

Газета павінна дапамагаць камуністам працаваць, перадаваць ім лепшы вопыт, інфармаваць аб рабоце раённага камітэта партыі. Гэтага не было ў раённай газеце ўвесь час, і ты, прыйшоўшы ў рэдакцыю, не прыняў ніякіх захадаў, каб гэтыя недахопы знішчыць.

Апошняя заўвага. Ты працуеш на надзвычай адказным участку. Гэта ты павінен быў улічыць, асабліва пасля артыкула тав. Лейзера. Нядаўняе мінулае ельскага кіраўніцтва (грубае адміністраванне, адрыў ад мас, страта класавай пільнасці) не магло не пакінуць карэнняў у асобных звеннях арганізацыі.

У мінулым «Бальшэвіцкі змагар» не сігналізаваў партыі аб наяўнасці гнойніка ў кіраўніцтве раёна, не змагаўся за яго ліквідацыю.

Гэта значыць, што ад цябе зараз шматрабуецца многае. У першую чаргу ты павінен памятаць аб рэвалюцыйнай пільнасці. Ты павінен паказаць у газеце ход перабудовы партыйнай арганізацыі, перабудовы яе работы ў адпаведнасці з апошнімі ўказаннямі тав. **Сталіна,** у адпаведнасці з пастановамі пленумаў Ленінградскага гаркома ВКП(б) і ЦК КП(б)Б.

А пачаў ты сваю работу, між намі кажучы, не зусім добра. Можа быць гэта тлумачыцца тым, што ты не знаём яшчэ з арганізацыяй. Магчыма. Але ва ўсякім разе табе прыдзецца прарабіць вялікую, складаную і адказную работу.

На гэтым я скончу. За асвятленне партыйнага жыцця вазьміся сур'ёзна.

**З ком. прывітаннем Л. ГЛЕЗЕР.**

* * *

## ЗАМЕСТ АГЛЯДУ ДРУКУ

# НЕЗАСЛУЖАНАЯ ПАХВАЛА

У першамайскім нумары чэрвеньскай раённай газеты **«Калектывіст»** з'явілася старонка, прысвечаная дасягненням соўгаса «Раванічы», знатным людзям гэтага соўгаса — скотніку тав. **Гарошку** Францу, **даярцы** Наталі **Белабровік** і конюху Язэпу **Мурашка**.

Старонка пачынаецца з аншлагу: **«Зробім кожны соўгас вядучым прадпрыемствам соцыялістычнага земляробства і жывёлагадоўлі».** Матэрыял упрыгожан малюнкамі, ён запэўнівае кожнага чытача ў тым, што соўгас «Раванічы» сапраўды з'яўляецца лепшым соўгасам, калі не ва ўсёй БССР, дык ва ўсякім разе ў Чэрвеньскім раёне. Словамі брыгадзіра Гарошкі і даяркі Белабровік газета запэўляе:

> **Мы працуем не дрэнна; указанні зоатэхніка і ветфельчара на МТФ праводзяцца ў жыццё».**
>
> **«Наша брыгада ўключылася ў сталінскі паход за развіццё жывёлагадоўлі. Даяркі цвёрда ведаюць свае абавязкі і імкнуцца лепш даглядаць сваіх кароў. Перад і пасля дойкі я заўсёды выціраю чысценька саскі каровы».**

Уся старонка адлюстроўвае вялікія дасягненні соўгаса «Раванічы», ударную працу рабочага калектыва, які ўключыўся ў сталінскі паход за развіццё жывёлагадоўлі. Праўда, ва ўсім гэтым матэрыяле ні слова не сказана аб тым, як у соўгасе даглядаюцца цяляты, як людзі, якія гавораць аб сваіх дасягненнях, змагаюцца за прырост пагалоўя жывёлы.

Паглядзім-жа, наколькі заслугоўвае гэтай пахвалы соўгас «Раванічы».

Вось дакумент: Загад № 95 ад 26-IV гг. па Менскаму Малпрамтрэсту, у якім сказана, што да 15-IV гг. у соўгасе «Раванічы» нарадзілася 53 цялят, з іх пала і прырэзана 11, або 20 проц. ад усяго прыплоду 1935 года. Цяляты падалі ва ўзросце ад 2 тыдняў да 1 месяца. Масавы адыход (8 галоў) прыходзіцца на канец сакавіка і красавік месяцы 1935 г. Прычыны — злачынна-нядбайныя адносіны спецыялістаў МТФ соўгаса — ветфельчара Ільмоўскага і зоатэхніка Бурчыка да догляду цялят.

Не гледзячы на дастатковую колькасць подсцілу, цяляты стаялі ў радзільным аддзяленні ў клетках з каменнай падлогай, без саломеннага подсцілу. Тэмпература малака пры паенні не мералася, цялят паілі нясвежым, знятым малаком. Вымя кароў пры дойцы дрэнна падмывалася, малако, якое ішло для паення цялят, было забруджана. Хворыя цяляты не адлучаліся ад здаровых, іх даглядалі адны і тыя-ж цялятніцы. Уся тэрыторыя каля цялятніка засмечана гноем.

Цялятніцы не ведалі інструкцыі па захаванню цялят, спецыялісты (зоатэхнік, ветфельчар) часта п'янствавалі. Усё гэта факты, якіх ніяк нельга ўтаіць ад чытача раённай газеты.

Соўгас «Раванічы» спаборнічае з соўгасам імя Кірава. Яшчэ 15 сакавіка брыгада рабочых соўгаса імя Кірава, правяраўшая самаабавязацельствы рабочых жывёлагадоўчага цэха соўгаса «Раванічы», адзначыла рад недахопаў у доглядзе жывёлы і асабліва ў гадоўлі маладняка. Не гледзячы на тое, што ў соўгасе «Раванічы» непараўнальна лепшая кармовая база і значна лепшае становішча з памяшканнямі для жывёлы, вынікі барацьбы за захаванне маладняка гавораць не ў карысць соўгаса «Раванічы»: 20 проц. адыходу цялят у «Раванічах» і 1 цялё ў соўгасе імя Кірава.

Ці ведалі аб гэтых фактах работнікі «Калектывіста»? Зразумела, **ведалі.** Аб гэтым сведчыць тое, што яны, **нібы** свядома, ні словам не заікнуліся аб становішчы маладняка ў соўгасе. Навошта рабіць пляму на агульным ясным фоне дасягненняў, навошта паказваць адмоўныя бакі, калі іх можна абыйсці красамоўным маўчаннем?

Прыклад незаслужанай пахвалы соўгасу «Раванічы» павінен паслужыць добрым урокам як для аўтараў гэтай старонкі тт. **Касоўскага і Ліўшыц,** так і для ўсяго калектыва рэдакцыі. Пільна правяраць і яшчэ раз правяраць друкуемы матэрыял, больш адказнасці за кожны факт, за кожны радок, які даецца ў газеце.

**С. К.**

## ГАЗЕТА Ў НОВЫМ РАЕНЕ

★ ★ ★

# Як добрушскі райком адносіцца да сваёй газеты

Знайсці рэдакцыю газеты **«Сталінец»** у Добрушы не так лёгка. У каго не спытаеш, ніхто не ведае. Двое грамадзян, якіх я сустрэў, на маё пытанне, дзе знаходзіцца рэдакцыя «Сталінца», адказалі:

— Вы памыляецеся, таварыш, вам, відаць, патрэбна рэдакцыя фабрычнай газеты **«Чырвоны папернік»**, дык яна каля фабрыкі змяшчаецца.

— Не, не, мне патрэбна рэдакцыя не фабрычнай, а іменна раённай газеты, — пераконваю я іх.



Так выглядае рэдакцыя добрушскай газеты

Тады тыя паціснулі плячыма і пашлі.

Не ведаюць яшчэ дабрушане пра сваю раённую газету. Толькі ў райкоме далі адрас рэдакцыі: **Садовая 31.**

У маленькім асабнячку размясцілася рэдакцыя. **Уваход са двара**. Спачатку невялічкая прыхожая, побач вялікая кухня і далей адзін рабочы пакой на 2—3 чалавекі. Такі ўнутраны выгляд мае «будынак» рэдакцыі. Ціха і спакойна тут. Рэдка хто заходзіць. Селькораў тут яшчэ не бывала ні разу.

Склад работнікаў: рэдактар **Банькоўскі**, намеснік рэдактара **Рацько**, сакратар **Трызна** і вучань **Галавачоў.**

Газета павінна выходзіць 9 раз у месяц на чатырох старонках, але выходзіць яна далёка не рэгулярна. За 20 дзён красавіка выйшла толькі 4 нумары газеты, прычым два з іх на двух старонках. Уласнай паліграфічнай базы газета не мае. Яна набіраецца і друкуецца ў друкарні фабрыкі «Герой працы». Там не хапае шрыфтоў, друкарскія машыны зношаны, няма кваліфікаваных рабочых. У рэзультаце газета сістэматычна спазняецца. Вельмі часта можна сустрэць у тэксце газеты незразумелыя знакі, якія замяняюць адсутныя літары ў шрыфце. Так, літара «1» проста замяняецца адламаным кавалкам лінейкі. Не гледзячы на такое становішча друкарні Белпаліграфаб'яднанне не ўключыла яе ў план забеспячэння шрыфтом, не дало і асобнай друкарні для раённай газеты.

Зараз рэдакцыя атрымлівае 7—8 заметак у дзень. Хто іх піша—рэдакцыя не ведае. Вывучэннем сацыяльнага складу селькораў яшчэ не заняліся. Ніводнага пісьма рэдакцыя селькорам не паслала. Няма таксама і жывой сувязі з імі. Рэдакцыя не кіруе нізавым друкам, яна нават не мае вестак, дзе выходзяць насценгазеты.

Сама газета «Сталінец» не вызначаецца асобай яркасцю. Тэматыка даволі бедная. Яна абмяжоўваецца ў асноўным такімі пытаннямі: сяўба, жывёлагадоўля і розпага роду пастановамі, якіх, да рэчы, больш чым трэба. Зрэдку можна сустрэць пытанні аб школе і пісьмы рабочых і калгаснікаў. Зусім адсутнічае замежная і ўнутраная інфармацыя, пытанні партыйнай работы.

Вельмі нізкая граматнасць газеты. Для ілюстрацыі спрывядзем толькі адзін «перл» з перадавога артыкула ад 18 красавіка. Перадавы гэты прысвечан нарадзе раённага партактыва, дзе стаяў даклад сакратара райкома партыі тав.

**Бангайціса** аб выніках красавіцкага пленума ЦК КП(б)Б. Вось адзін абзац гэтага перадавога:

**«Калі Слуцкі раён, які мы выклікалі на спаборніцтва, на 10-IV выканаў план сяўбы на 8 проц., то Добрушскі раён не мае і 1 проц. выканання плана. Гэта кажа за тое, што комуністы вёскі слаба мабілізавалі калгаснікаў і аднаасобнікаў на тое, каб не здаць пяршынства ў спаборніцтве з аднаго боку і справу сяўбы пусцілі на самацёк—з другога, што сцвярджаецца фактам апартукістычнага благадушша з боку старшыні Крупецкага сельсовета тав. Гарэліка, які замест таго, каб па-большэвіцку ўзяцца за разгортванне масавай сяўбы бездапаможна разводзіць рукамі кажучы: «Ну, што рабіць калі людзі не жадаюць сеяць».**

Гэты перадавы артыкул дае няправільную арыентыроўку партыйнаму актыву, ён патрабуе паклаці ў аснову работы пастановы не красавіцкага пленума ЦК КП(б)Б, а раённай партыйнай нарады. Так і заканчваецца перадавы артыкул:

**«Нарада аднадушна прыняла рэзалюцыю з канкрэтнымі мерапрыемствамі аб забеспячэнні веснавой сяўбы і наладжванню партмасавай работы. Гэта рэзалюцыя павінна быць пакладзена ў аснову да лепшай работы пярвічных партарганізацый, парткомаў і кожнага комуніста паасобку».**

Але вернемся да пытання аб кадрах рэдакцыі. З усяго складу рэдакцыі толькі тт. Банькоўскі і Рацько маюць некаторы вопыт газетнай работы. Што датычыць Трызны, дык гэта наогул чалавек, які не заслугоўвае права працаваць у большэвіцкім друку. Трызна—п'яніца. Аб гэтым усе ведаюць. Да пераходу ў рэдакцыю ён працаваў кіраўніком спраў райкома партыі і там не маглі не ведаць яго схільнасць «да чаркі». Аднак, гэта не пашкодзіла райкому партыі накіраваць яго на газетную работу.

Аб адсутнасці клапатлівых адносін з боку райкома партыі да газеты, да яе кадраў гавораць яшчэ рад фактаў.

Не глядзячы на яўны недахват работнікаў у рэдакцыі райком партыі рэдактара Банькоўскага прымацоўвае да калгаса «Чырвоны хутар», Пераростаўскага сельсовета, адказным за ход сяўбы. Калгас гэты знаходзіцца за 23 кілометры ад раённага цэнтра. І т. Банькоўскі вымушан больш праседжваць у калгасе, чым у рэдакцыі. Аб гэтым ненармальным становішчы т. Банькоўскі гаварыў у райкоме партыі не раз. Ён, праўда, не асмеліўся патрабаваць поўнага вызвалення ад падобных нагрузак. Ён усяго толькі прасіў даць яму бліжэйшы калгас, каб мець магчымасць часцей бываць у рэдакцыі. Але другі сакратар райкома партыі, т. **Янковіч,** не пажадаў нават гаварыць на гэту тэму. Тады т. Банькоўскі звярнуўся да першага сакратара т. **Бангайціса.** Той спачувальна аднёсся да скаргі, але сказаў: «ты-ж ведаеш наша становішча з комуністамі, давай не гаварыць аб гэтым». І т. Банькоўскі перастаў аб гэтым гаварыць.

Асноўны цяжар работы ляжыць на намесніка рэдактара т. Рацько. Ён і праўшчык матэрыялу, і стыліст, і карэктар, і выпускаючы, і ўсё што хочаце.

Якія-ж адносіны да яго з боку райкома партыі?

Адкрылі сталовую для раённага актыва. Другі сакратар РК т. Янковіч складаў спіс маючых права харчавацца ў гэтай сталовай, але т. Рацько ў гэты спіс не папаў. Вызначалі хто з райпартактыва павінен атрымаць прадуктовы паёк. Тав. Рацько таксама не быў уключан т. Янковічам у лік гэтых людзей.

З 7 сакавіка т. Рацько перакінуты ў Добруш, але кватэры яшчэ не мае, не можа перавесці сям'ю, якая жыве ў Гомелі. Ці можна хоць чым-небудзь апраўдаць такія абураючыя адносіны да асноўнага работніка газеты?

З-за такіх-жа адносін да кадраў газетных работнікаў рэдакцыя страціла аднаго літаратурнага работніка т. **Шэйн.** Яна два тыдні пабыла без кватэры і паехала.

Добрушскі райком партыі павінен рэзка змяніць адносіны да сваёй газеты і забяспечыць сапраўды большэвіцкае кіраўніцтва ёю.

**Р. ДОДЗІН.**

## З ВОПЫТУ РАБОТЫ РАЁННАГА І НІЗАВОГА ДРУКУ

★ ★ ★

# „Большэвік Барысаўшчыны“ на сяўбе

У дзень Першага мая Барысаўшчына рапартавала ЦК КП(б)Б і ўраду Беларусі аб выкананні плана веснавой сяўбы. Гэтай перамогі рабочыя, калгаснікі і ўсе працоўныя раёна дабіліся пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б на чале з лепшым сталінцам тав. **Гікало.**

Друк і рабселькоры Барысаўшчыны ў паспяховым і добраякасным правядзенні сяўбы адыгралі выключна важнае значэнне.

Газета **«Большэвік Барысаўшчыны»** работу па падрыхтоўцы да пасеўнай пачала яшчэ з снежня мінулага года.

Пытанні засыпкі, ачысткі, пратручвання насення, догляду каня і падрыхтоўкі інвентару, пачынаючы з снежня, амаль не сходзілі са старонак газеты. Праводзіліся селькораўскія рэйды праверкі догляду конскага пагалоўя, падрыхтоўкі і захавання насення.

Уся гэта работа праводзілася пад лозунгам—атрымаць першынства ў соцыялістычным спаборніцтве з Бабруйшчынай.

Пачатак палявых работ раён сустрэў поўнасцю падрыхтаваным. Надыходзіў рашаючы перыяд—сяўба. Рэдакцыя «Большэвіка Барысаўшчыны» паставіла перад сабой задачу—арганізаваць работу нізавога друку і селькораў у часе сяўбы так, каб яны сапраўды з'явіліся лепшымі памочнікамі партыйнай арганізацыі ў барацьбе за першынства.

Задоўга да пачатку палявых работ рэдакцыя выдала макеты калгасных і брыгадных насценных газет. Напярэдадні сяўбы актыўныя селькоры раёна былі выкліканы на семінар, на якім падрабязна былі распрацаваны задачы нізавога друку і рабселькораў у пасеўнай кампаніі.

У кожным сельсовеце быў устаноўлен карэспандэнцкі пункт, які штодзенна інфармаваў рэдакцыю аб ходзе падрыхтоўкі, а затым і палявых работ па асобных калгасах і паселішчах.

З пачатку палявых работ у больш адстаючыя сельсоветы і калгасы раёна выехала выязная рэдакцыя райгазеты. Разам з выязной рэдакцыяй райком партыі выслаў культкамбайн з кінаперасоўкамі, рознай літаратурай, газетамі і інш. Выязная працавала ў калгасах «Кастрыч-




Асобныя нумары газет выязной рэдакцыі «Большэвіка Барысаўшчыны».

**Селькоры «Большэвіка Барысаўшчыны»**



Тав. Мельнікаў.

* * *



Тав. Чарныш Пётра.

* * *

нік»—Забашаўскага сельсовета, імя Сталіна, «Праўда» і «Шлях Леніна» — Глівінскага сельсовета, «13-годдзе Октябра» — Перасадскага сельсовета, калгасах імя Домбаля, імя Дзержынскага—Лэзінскага сельсовета.

У кожным калгасе, дзе працавала выязная рэдакцыя, на полі ў часе абедзеных перапынкаў брыгадай агіткамбайна наладжваліся гучныя чыткі газет, мастацкай літаратуры, увечары дэманстраваліся кіно-карціны.

Рэдакцыяй рай газеты разам з раённай камісіяй па кіраўніцтву спаборніцтвам былі выпушчаны «чырвоныя весткі», якія ўручаліся перадавым па сяўбе калгасам, «весткі ганьбы», якія ўручаліся адстаючым калгасам.

Няма ў раёне амаль ніводнага калгаса, дзе-б у часе сяўбы не выходзілі насценныя газеты. У большасці калгасаў амаль штодзенна выпускаліся брыгадныя газеты, шырока адлюстроўваючыя ход сяўбы.

У калгасе імя Комінтэрна, Карсакоўскага сельсовета, у кожнай брыгадзе выходзіла насценная газета. Рэдактары брыгадных газет—актыўныя селькоры **Несцяронак Кастусь і Чарныш Фёдар**, раней за ўсіх калгаснікаў выходзілі на работу, сачылі за дысцыплінаванасцю калгаснікаў, якасцю работы, і ўвечары, пасля работы, штодзенна выпускалі брыгадную газету. Выходзіла і агульнакалгасная газета.

У калгасе «Пролетарская перамога», Зембінскага сельсовета, калгасная штодзенка з'явілася арганізатарам соцыялістычнага спаборніцтва калгаснікаў у часе сяўбы. Усе дагаворы і самаабавязацельствы калгаснікаў былі змешчаны ў газеце. Штодзенка сістэматычна правярала і паказвала выкананне гэтых самаабавязацельстваў, штодзенна заносіла лепшых калгаснікаў на чырвоную дошку, а лодыраў, якія не выпрацоўвалі сваіх норм,—на чорную дошку.

Штодзенка паказала вопыт работы лепшых калгаснікаў Труса Захара, Хацкевіча Васіля, Шакаўца Сяргея і Хмеля Івана. Па лепшых раўняліся астатнія калгаснікі.



Тав. Фоміч Іван — актыўны селькор калгаса «Пролетарская перамога»



Тав. Дашчынскі



Тав. Урбановіч—рэдактар насценгазеты калгаса «Чырвоныя лаўрыкі».

У калгасе «Іскра», Аздзяціцкага сельсовета, усе члены рэдкалегіі насценнай газеты былі прымацаваны да брыгад, канюшні і т. д. Яны забяспечвалі асвятленне ў насценнай газеце ходу работы брыгад, конюхаў і асобных калгаснікаў.

Брыгадзір калгаса «Бядняцкая перамога», Вяліка-Негнаўскага сельсовета, тав. **Ляўданскі** аб ролі сваёй брыгаднай газеты ў часе сяўбы расказвае так: «Ні адзін факт дрэннай работы калгаснікаў не прайшоў міма брыгаднай штодзенкі. Газета дабілася таго, што прагульшчык, зрыўшчык працдысцыпліны **Мазоль** стаў дысцыплінаваным калгаснікам, пачаў перавыконваць норму, і нават падцягваць адстаючых. Штодзенка дала мне магчымасць бачыць усе недахопы сваёй брыгады, на-хаду іх выпраўляць».

Сяўба ў раёне закончана своечасова і добраякасна. Але на гэтым нельга супакойвацца. «Большэвік Барысаўшчыны» і нізавы калгасны і брыгадны друк прадаўжаюць барацьбу за атрыманне пяршынства ў сталінскім паходзе.

Ужо зараз друк разгортвае работу па падрыхтоўцы калгасаў да праполачнай і ўборачнай кампаній.

8 мая рэдакцыя «Большэвіка Барысаўшчыны» разам з райзаправа́ла нараду-семінар загадчыкаў калгасна-таварных ферм і рахункаводаў калгасаў. На семінары прапрацавана пастанова ЦК ВКП(б) і СНК аб дзяржаўным плане развіцця жывёлагадоўлі на 1935 год і ўмовы конкурса Наркамзема на лепшую жывёлагадоўчую ферму.

**Л. ГОРФІНКЕЛЬ —загадчык масавага аддзела газеты «Большэвік Барысаўшчыны».**

**Селькоры «Большэвіка Барысаўшчыны»**



Тав. Мазоль Якуб—рэдактар насценгазеты калгаса.



Тав. Мацкевіч.

# Як мы заваявалі пяршынства

— Своечасова выходзіць на работу,

— поўнасцю выконваць нормы, дабіваючыся высокай якасці сяўбы і апрацоўкі глебы;

— захаваць сярэднюю ўпітанасць каня;

— дабіцца права называцца сталінскай брыгадай — з такімі абавязацельствамі выходзілі на сяўбу калгаснікі другой брыгады калгаса «Бязбожнік», Лёзненскага раёна. Перад выхадам у поле калгаснікі заключылі дагаворы на соцспаборніцтва. Араты з аратым, конюх з конюхам заключылі ўмовы на своечасовы выхад на работу, на ўшчыльненне рабочага дня, на лепшае ворыва і догляд каня.

17 красавіка на палях брыгады пачалася сяўба. Прайшло 7 дзён, і 24 красавіка брыгада рапартавала аб заканчэнні сяўбы ўсіх яравых.

Такіх поспехаў дабілася брыгада дзякуючы шырока разгорнутаму соцыялістычнаму спаборніцтву. У разгортванні соцспаборніцтва вялікую ролю адыграла брыгадная штодзенка. Штодзенка своечасова сігналізавала, калі ў тым ці іншым звяне выяўляліся недахопы ў апрацоўцы глебы, або спазненні на работу. Ганьбаванне адстаючых праз «чорныя дошкі», занясенне лепшых ударнікаў на «дошкі гонару»—ўсё гэта значна ўплывала на рост працоўнай дысцыпліны.

Другая брыгада заключыла соцыялістычны дагавор з трэцяй брыгадай. Штодзёнка брыгады з першага-ж дня ўзя-

лася за праверку і асвятленне ходу соцспаборніцтва. У першы-ж дзень сяўбы штодзёнка занесла на чорную дошку за спазненне на работу калгаснікаў **Лахваенка** і **Арцемьева,** змясціла пра іх вострую заметку. У той-жа вечар па гэтаму выпадку быў склікан брыгадны мітынг. Назаўтра Арцемьеў і Лахваенка на світанні вышлі на работу.

Вось у яркіх карыкатурах насценгазета ганьбіць лодыра Прымудрага. Пра яго загаварылі ў калгасе нават школьнікі, малыя дзеці. І праз некалькі дзён **Прымудры** ўжо не толькі выконвае, але і перавыконвае норму.

Конюх **Трапашка** спазніўся падаць на поле коням аўса. Яго занеслі на «чорную дошку».

Трапашка прыходзіць у рэдкалегію з заявай:

— Больш гэтага ў мяне не паўторыцца, толькі зніміце з «чорнай дошкі».

А калі сейбіт **Салаўёў** замест сяўбы прагуляў дзве гадзіны, рэдкалегія брыгаднай штодзёнкі выпусціла спецыяльны лісток-«маланку», прысвечаны гэтаму факту. Матэрыялы насценгазеты былі тут-жа абмеркаваны, з Салаўёвым правялі гутарку. І ў выніку Салаўёў стаў засяваць 5 га замест 3.

Па-ўдарнаму працавала другая брыгада калгаса. З цямна да цямна кіпела работа на яе ўчастку. Цікавы факт. Аднаго дня калгаснік **Новікаў** крыху спазніўся на работу. На другую ноч ён не пашоў начаваць дамоў, а астаўся ў брыгадзе, каб не спазніцца на работу заўтра.

Як толькі брыгада скончыла сяўбу, яна ўзяла на буксір трэцюю брыгаду, якая адставала. Пры актыўным удзеле брыгаднай штодзёнкі і селькораў неадкладна быў склікан мітынг усёй трэцяй брыгады. Вышаў чарговы нумар насценнай газеты брыгады, які выкрываў недахопы і адставанне асобных калгаснікаў.

Брыгада падцягнулася. Праз некалькі дзён 3 брыгада разам з усім калгасам поўнасцю завяршыла сяўбу ранніх яравых.

**Рэдактар калгаснай насценгазеты, брыгадзір 2 брыгады калгаса «Бязбожнік» С. ШАІРКА.**

# Дні і справы брыгаднай газеты

Рэдактара штодзёнкі першай брыгады кавальскага цэха (Гомсельмаш) т. **Фрумкіна** ведаюць не толькі ў цэху як лепшага брыгаднага рэдактара, але і па ўсяму заводу.

З 1932 г. працуе т. Фрумкін рэдактарам брыгаднай газеты. Ударнік-«выдатнік» на вытворчасці, ён перанёс ударныя метады работы і ў сваю газету. За работу на вытворчасці т. Фрумкін прэміроваи 4 разы, за работу ў газеце — 2 разы.

— Галоўнае, — гаворыць т. Фрумкін, — гэта правільная расстаноўка сіл рэдкалегіі.

Кожны член рэдкалегіі адказвае за канкрэтны ўчастак работы: т. **Аніхоўскі** —адказны за рэагаванне, т. **Урублеўскі** —забяспечвае асвятленне ў газеце работы грамадскіх арганізацый цэха, т. **Міхайлава,** якая працуе ў канторы, забяспечвае газету лічбовымі матэрыяламі аб выкананні промфінплана, эканоміі матэрыялаў і т. д., тт. **Гусакоў** і **Канцавой** —мастакі. Яны тэхнічна афармляюць газету.

4 члены рэдкалегіі, якія працуюць непасрэдна на вытворчасці, — ударнікі-«выдатнікі».

— Адказнейшы ўчастак работы—рэагаванне на рабкораўскія заметкі, — расказвае т. Фрумкін, — вядзе мацнейшы член рэдкалегіі. І гэта сапраўды так. Газета дабілася ўзорнага рэагавання на свае выступленні. Ні адна рабкораўская заметка не астаецца без вынікаў. Здарылася аднаго разу так. Намеснік парторга цэха т. **Бялюга** загадаў рэдактару штодзёнкі зняць вывешаны нумар газеты, у якім пісалася, што профцэхком **Караедаў** і парторг Цёмкін падзялілі паміж сабой атрыманыя для цэха 2 талоны на галошы. Тав. Фрумкін неадкладна паставіў пытанне аб зажыме самакрытыкі на пасяджэнні парткома. Парт-

ком абвясціў Бялюгу вымову з папярэджаннем.

Ці такі факт. У канцы 1934 г. чорнарабочы **Удод** зламаў на рабоце нагу. Праляжаўшы доўгі час у больніцы, т. Удод, вярнуўшыся ў цэх, папрасіў начальніка цэха т. **Філіповіча** паставіць яго на больш лёгкую работу. На сваёй ранейшай рабоце т. Удод па стану здароўя працаваць не мог. Гэта сведчылася і даведкай урача. Але на працягу доўгага часу начальнік цэха ніяк не мог «падабраць» для яго адпаведную работу. І толькі пасля таго, як штодзёнка **«За высокую якасць работы»** выступіла супроць такіх бяздушных адносін да жывога чалавека, т. Удод быў прызначан памочнікам машыніста ковачнай машыны.

Высокая дзейснасць матэрыялаў брыгаднай газеты ўзняла аўтарытэт газеты. Лік рабкораў у брыгадах № 1 і 2 (другая брыгада абслугоўваецца гэтайжа штодзёнкай) вырас да 36. Сярод гэтых рабкораў ёсць такія, як т. **Сімакоў**, які на працягу года напісаў у брыгадную газету 106 заметак, т. **Лосеў**, які напісаў 86 заметак, т. **Гароўскі** — 36 заметак. Пры такой актыўнасці рабкораў не прыходзіцца здзіўляцца, што газета «За высокую якасць работы» не ведае прарываў. Яна выходзіць рэгулярна — праз дзень.

Яшчэ да гудка прыходзяць на работу члены рэдкалегіі. Яны сочаць за тым, як пачынаецца работа, хто спазніўся, хто прастаяў, па чыёй віне здарыўся прастой і т. д. Уся работа першай і другой брыгады знаходзіць яркі адбітак у штодзёнцы. Работа з вынаходцамі, работа «лёгкай кавалерыі», Асоавіяхіма, кантрольнага аддзела, барацьба за чыстату рабочага месца і варштата, профработа — ўсе гэтыя пытанні сістэматычна асвятляюцца ў газеце.

Пасля пленума Ленінградскага гаркома КП(б)Б і пленума ЦК КП(б)Б газета пачала асвятляць і ўнутрыпартыйную работу ў брыгадах, паказала работу з спачуваючымі.

Значную работу правяла газета па разгортванню тэхнічнай вучобы ў брыгадах. Не толькі рабкораўскія заметкі, але і рэдакцыйныя «перадоўкі» прысвячаліся барацьбе за аўладанне тэхнікай. У выніку, з 12 рабочых, якія здавалі нядаўна дзяржтэхэкзамен, 7 здалі на «выдатна», 3 на «добра» і толькі два на «здавальняюча». Здалі тэхэкзамен і астатнія рабочыя. Паказальна, што з 36 рабкораў — 24 «выдатнікі», астатнія здалі тэхэкзамен на «добра».

У часе падпіскі на пазыку «2-я пяцігодка» (выпуск трэцяга года) газета «За высокую якасць работы» таксама паказала сябе, як арганізатар мас на ажыццяўленне мерапрыемстваў партыі і ўрада. Аператыўна асвятляючы ход падпіскі па цэху, паказваючы перадавікоў і заклікаючы адстаючых раўняцца па перадавіках, газета дабілася таго, што кавальскі цэх вышаў у рады перадавых цэхаў завода.

Не ўпускае рэдкалегія газеты і вучобы рабкораў. 2 разы ў месяц праводзяцца інструкцыйныя нарады. Матэрыялы рабселькораўскага з'езда прапрацаваны ўсімі рабкорамі. І ўсё-ж становішча вучобы рабкораў рэдактара не здавальняе.

— Было-б зусім не дрэнна, — гаворыць т. Фрумкін, — калі-б у нас на заводзе, ці ў горадзе арганізавалі рабкораўскі семінар, дзе-б мы маглі сістэматычна вучыцца.

На адсутнасць такога семінара і скардзіцца т. Фрумкін.

Да яго скаргі мы далучаемся, бо яна небеспадстаўна, да ведама рэдакцыі **«Палескай праўды»** і заводскай шматтыражкі **«Сельмашац»**.

**А. ГІЗУНТЭРМАН.**

Гомсельмаш.




**Раённы і фабрычна-заводскі друк Гомеля.**

## З ВОПЫТУ РАБОТЫ ФАБРЫЧНА-ЗАВОДСКАГА ДРУКУ МАСКВЫ І ЛЕНІНГРАДА



# Рэдактары фабрычна-заводзкіх газет БССР на экскурсіі

Пытанні культуры на старонках маскоўскіх і ленінградскіх фабрычна-заводскіх газет займаюць адно з ганаровых месц.

Возьмем пытанні тэатра.

Газета **«Двигатель»** завода «Красный пролетарий» (Масква) праводзіць вельмі цікавую работу з тэатрам. Рэжысеры, акторы выступаюць на старонках газеты, расказваюць рабочым аб рабоце над стварэннем спектакля, рабоце над роллю, аб труднасцях і перамогах. Газета арганізоўвае сустрэчы лепшых ударнікаў завода з калектывам тэатра. Заўвагі, зробленыя рабочымі-ўдарнікамі на гэтых сустрэчах, улічваюцца рэжысерамі ў далейшай рабоце тэатра. Так газета звязвае рабочага глядача з тэатрам, узнімае культурны ўзровень рабочых на вышэйшую ступень.

Газета **«Догнать и перегнать»** завода імя Сталіна арганізавала гурток рэцэнзентаў. Большасць рэцэнзій, змешчаных на старонках газеты, ёсць прадукт творчасці рабочых удзельнікаў гэтага гуртка.

Газета **«Техника»** завода «Красный треугольник» (Ленінград) шырокім асвятленнем работы тэатраў здолела дабіцца, што 300 старых рабочых, ні разу не бачыўшых спектакляў, упершыню ў сваім жыцці пашлі ў тэатр. Гэта было свята для ўсяго рабочага калектыва, свята культурнага росту рабочых.

Шмат увагі аддаюць газеты рабочай самадзейнасці.

Газета **«Красный выборжец»** шырока паказвае работу заводскіх драмгурткоў, змяшчае клішэ, паказваючыя асобныя моманты работы гурткоў, арганізуе водгукі рабочых і работніц аб рабоце гурткоў, указвае хібы ў гэтай рабоце, падбадзёрвае гуртkoўцаў, будзіць у іх жаданне вучыцца. Нядаўна пад «шапкай» **«Нам улыбались, кричали ура»** газета паказала, як сустракаюць рабочыя выступленні маладых артыстаў завода.

Газета не абмяжоўваецца агульным паказам росту самадзейнасці на заводзе. Яна паказвае і паасобных талантлівых людзей.

Нельга абыйсці цікавы вопыт фабрычна-заводскіх газет Масквы і Ленінграда па азнаямленню рабочых з цікавымі помнікамі і пабудовамі сваіх гарадоў.

Газеты «Техника», «Красный выборжец» сістэматычна змяшчаюць клішэ лепшых музеяў, гістарычных месц, рэкамендуюць рабочым куды пайсці, з чым пазнаёміцца, паказваюць новыя палацы, пасёлкі, клубы, пабудаваныя за апошні час.

Было-б вельмі каштоўным арганізаваць такі аддзел у фабрычна-заводскіх газетах Менска, Віцебска, Гомеля, Барысава, Бабруйска і т. д. Гэта пашырыць тэматыку газеты, зробіць яе больш жывой, цікавай, чытабельнай.

**Я. ЭСТЭРКІН.**

# Работа над матэрыялам, „шапкай“ і загалоўкам

Якія сухія, шаблонныя «шапкі» і загалоўкі вельмі часта «ўпрыгожваюць» старонкі нашых фабрычна-заводскіх газет. «Узмацніць», «палепшыць», «прыцягнуць да адказнасці» і т. д. Проста не «шапкі», а загады. А ўсё таму, што мы. рэдактары, зусім мала **працуем над сабой, мала** чытаем мастацкай літаратуры.

У тых фабрычна-заводскіх газетах Масквы і Ленінграда, з работай якіх мы знаёміліся ў часе экскурсіі, амаль не сустрэнеш такіх казённых, трафарэтных «шапак» і загалоўкаў, якімі стракацяць старонкі шматтыражак у нас. Там загалоўкі вельмі прадуманыя, вострыя, жывыя. Прывядзем некалькі прыкладаў.

Нядаўна газета **«Двигатель»** (завод «Красный пролетарий», Масква) змясціла матэрыял аб некаторых бюракратах. Над матэрыялам газета дала шапку»: **«Он криком может убеждать, а дирижировать оглоблей».** Матэрыял аб балбатунах «Двигатель» азаглавіў: **«И мы пахали».** Над матэрыялам аб парторгах, якія не ведаюць сваіх людзей, даецца шапка: **«Он имя знает наизусть, а фамилии не припомнит»** і т. д. Некаторыя, найбольш трапныя загалоўкі ўкараняюцца ў штодзённы ўжытак. Словы «і мы пахалі» рабочыя цяпер часта ўжываюць пры характарыстыцы балбатуноў.

Рэдактар «Двигателя» т. **Кайданаў** чытае многа мастацкай літаратуры. Ён не проста чытае. Найбольш трапныя выразы, «крылатыя словы» ён выпісвае ў асобны блакнот. Такіх «крылатых слоў» з Салтыкова-Шчэдрына, Грыбаедава, Крылова, Кузьмы Пруткова і т. д. у яго запісана шмат. Ён скарыстоўвае іх для эпіграфаў, загалоўкаў, ужывае часта і ў тэксце матэрыялаў. Гэта ажыўляе мову газеты, робіць газету больш чытабельнай, больш даходчывай да чытача.

Рэдактар газеты **«Кировец»** (завод імя Кірава, Ленінград) т. **Анцэловіч** завёў спецыяльны блакнот, у які запісвае найбольш цікавыя лічбы і факты з жыцця Савецкага Саюза, вобласці, горада, свайго завода. Пры пісанні артыкулаў, праўцы матэрыялаў т. Анцэловіч карыстаецца сваімі запісамі, насычае артыкулы цікавым фактычным матэрыялам.

Работнікі «Двигателя», «Кировца» многа і сур'ёзна працуюць над мовай і афармленнем газеты. І таму стандартных сказаў, незразумелых іншамоўных слоў у гэтых газетах значна менш, чым у нашых шматтыражках. Лепш і афармляюцца газеты. Работнікі рэдакцый добра знаёмы з шрыфтамі і з тэхнікай вёрсткі. Макеты нумароў складаюцца не ў друкарні, у часе вёрсткі, а ў рэдакцыі. Усе «шапкі» і загалоўкі падрыхтаваны загадзя, размечаны шрыфты. Гэта значна палягчае і паскарае вёрстку, паляпшае афармленне газеты.

У часе экскурсіі мы яшчэ раз пераканаліся, што для таго, каб зрабіць свае газеты цікавымі, культурнымі, нам трэба сур'ёзна ўзяцца за работу над сабой, за аўладанне тэхнікай газетнай работы.

**Рэдактары шматтыражак:**

**МІНКІН (завод «Большэвік», Менск), ПАМЕРАНЕЦ (фабрыка «Окцябр», Менск), ДЫНЭРШТЭЙН (галянтарэйная ф-ка імя Куйбышэва, Менск).**

## АБМЯРКОЎВАЕМ ПЫТАННЕ АБ ПАДБОРЦЫ Ў ГАЗЕЦЕ

★ ★ ★

# ПЫТАННЕ АБ ПАДБОРЦЫ—ПЫТАННЕ АБ ПАШЫРЭННІ ТЭМАТЫКІ ГАЗЕТЫ

Сяўба па раёну скончылася. Скончан першы этап паходу за высокі ўраджай. Мы ўступаем у другі этап. Нумар за нумарам перагортваем раённую газету. Яе старонкі нібы дыхаюць прайшоўшымі хвалюючымі днямі барацьбы за тэмпы і якасць сяўбы: аператыўныя данясенні, артыкулы, рабсялькораўскія заметкі, чырвоныя і чорныя дошкі. Параўноўваем старонкі газеты з планам работы рэдакцыі. Усё-ж нямала пунктаў асталося нявыкананымі. Выпала з газеты адно вельмі сур'ёзнае пытанне: выган жывёлы на пасьбішча, барацьба за стварэнне моцнай кармовай базы.

Для чаго я пішу гэта? Таму, што гэта цесна звязана з узнятым **«Бальшавіцкім друкам»** пытаннем аб **падборцы ў газеце.** Кожны работнік раённай газеты, калі ён сур'ёзна думае над паляпшэннем зместу і афармлення газеты, не можа прайсці міма гэтага пытання.

Мне прыйшлося праглядзець камплекты некаторых раённых газет. Якое заключэнне прыходзіцца рабіць? Калі меркаваць па некаторых газетах, дык відаць, што на падборку існуюць розныя погляды. Асобныя газеты захапляюцца падборкамі. Старонкі такіх газет выключна пабудаваны на падборках. Усё як-бы раскладзена па палічках. Не газета, а універсальны магазін. Другія-ж раскідваюць газетныя матэрыялы як папала. Часта важныя матэрыялы якбы сарамліва выглядваюць з газетных «акраін». У такой газеце мэтаімкнёнасці няма.

Мне асабіста прыходзіцца сур'ёзна працаваць над афармленнем кожнага нумара нашай газеты. Афарміць нумар так, каб важны матэрыял займаў у газеце відное месца—не другарадная справа.

Я разумею так, што пытанне «ці патрэбна падборка» пастаўлена яшчэ і таму, што ў раённых газетах часта ў пагоні за падборкай людзі не стараюцца расшыраць тэматыку, вельмі часта ўпускаюць рад цікавейшых пытанняў з жыцця раёна.

Нельга сказаць, што мы поўнасцю справіліся з задачай поўнага паказу жыцця раёна. Аднак, некаторыя поспехі ў выкананні гэтай задачы мы маем. Мы імкнемся значна расшырыць тэматыку нашай газеты.

На практыцы мы ўпэўніліся, што пытанні расшырэння тэматыкі цесна звязаны з пытаннем аб падборцы. Расшырэнне тэматыкі дыктуе работнікам райгазеты практыкаваць **камбінаваную** падачу матэрыялаў.

З гэтага выцякае, што кожны раз па кожнаму раней прадуманаму і арганізаванаму матэрыялу, па кожнаму ўзнятаму пытанню трэба асобна вырашаць, як яго лепш падаць, каб дасягнуць пастаўленай мэты. Вельмі часта асобная падача матэрыялаў без падборкі канцэнтруе ўвагу не менш, чым падборка. Ёсць у практыцы работы выпадкі, калі ў пагоні за падборкай людзі часта затрымліваюць матэрыял. Марынуецца матэрыял вельмі часта некалькі дзён, а то і тыдняў, траціць ён сваю надзённасць, аператыўнасць. Тут я магу прывесці канкрэтны прыклад.

Аднойчы правялі мы маленькую нараду спачуваючых. Думалі падаць старонку аб рабоце спачуваючых. У першы-ж дзень нарады ў нас быў напісан цікавы матэрыял аб двух спачуваючых калгаса «Новы быт», Кручыцкага сельсовета. Доўга гэты матэрыял ляжаў у рэдакцыі ў чаканні выступленняў астатніх удзельнікаў нарады. Па тэхнічных прычынах так хутка гэтыя выступленні не маглі быць аформлены. Прышлося адмовіцца ад ідэі падачы ста-

ронкі і даць гэты матэрыял асобна. І трэба сказаць, што мэта была дасягнута. Матэрыял быў падан добра. Удала былі падабраны загаловак і падзагалоўкі. Даны фотаздымкі спачуваючых, і атрымалася, што гэты матэрыял не менш мабілізуе грамадскасць, чым цэлая падборка.

Аднак, падборка, асабліва ў раённай газеце, адыгрывае выключную ролю ў справе канцэнтрацыі ўвагі на тым ці іншым пытанні, у справе мэтаімкнёнасці матэрыялаў. Але перш чым падаць падборку, трэба сур'ёзна падумаць аб змесце матэрыялаў, якія ідуць у яе. Тут таксама можна прывесці адзін характэрны факт. У рэдакцыю нашай газеты паступіў допіс. Селькор сігналізуе аб тым, што ў Калодзішчанскім сельсавеце пераважная большасць калгаснікаў не мае папы для сваіх кароў, асабліва дрэнная справа з пашай для цялят. Атрымалі мы сігнал і аб тым, што з пашай для калгасных кароў у Астрашыцка-Гарадзецкім сельсавеце таксама не ў парадку. Тут мы прыпомнілі нявыкананы пункт плана «аб выгане жывёлы на пасьбішча, барацьбе за стварэнне кармовай базы».

Гэтыя два сігналы мы падалі асобна. Але побач з гэтым мы распрацавалі канкрэтны план падачы падборкі на гэту тэму. Наш работнік на заўтра-ж выехаў у адзін з буйнейшых калгасаў раёна «Новы шлях». Там ён склікаў нараду ўсіх работнікаў фермы. На ферме былі выяўлены ўсе магчымасці лепшай арганізацыі пашы і барацьбы за кармовую базу. Было пастаўлена пытанне аб культывізацыі лугоў і пасьбішчаў, аб падсеўных травах. Былі вывучаны ўсе лужайкі, лясочкі. Падлічана, наколькі неабходна і можна падкармліваць жывёлу, дзе будуць знаходзіцца на пашы цяляты, як будуць карміць вытворнікаў, і ўсе пытанні, звязаныя з выпасам жывёлы. Даяркі, цялятніцы, пастухі выступілі з канкрэтнымі прапановамі і абавязацельствамі. Гэты матэрыял шырока і канцэнтравана падан у газеце.

Вось у такіх выпадках падборка безумоўна патрэбна. Прычым гэты матэрыял прымусіў нас падумаць аб тым, каб склікаць нараду пастухоў.

Ясна, калі газета хоча добра падаць падборку, то трэба зрабіць так, каб асобныя матэрыялы, адны і тыя-ж факты, хоць-бы яны былі з розных месц, не паўтараліся.

Каштоўнасць падборкі вялікая тады, калі яна аснашчана добрай шапкай, добра падабранымі загалоўкамі, калі кожная заметка знаходзіцца на сваім месцы, калі больш важны матэрыял выгодна выдзяляецца з падборкі. Тут трэба ўмела камбінаваць шрыфты. Мы ведаем факты, калі шапкі з нашай газеты ў радзе калгасаў выразаюцца і наклейваюцца ў насценных газетах, вывешваюцца ў канюшнях і іншых відных месцах.

«Галоўнае пасеяць на выдатна і ў тэрмін. Якасць апрацоўкі глебы, якасць сяўбы—вось што павінна быць на першым плане».

«Зямля канчаткова адтаяла. На ўзгорках падсохла. Арганізавана выйсці ў поле! Узброеныя новым сталінскім статутам калгаснага жыцця, калгаснікі павінны паказаць узоры большэвіцкай барацьбы за рэкордны ўраджай».

«Сяўба ў адпавор, сяўба непратручаным насеннем, дрэнная задзелка насення—удар па ўраджайнасці, удар па базе працадня».

Такія шапкі пры адпаведнай падачы і падборы матэрыялаў безумоўна мелі больш уплыў, больш мабілізавалі грамадскасць, чым раскіданыя па розных старонках матэрыялы.

**
*

«Навучыцца цаніць людзей, цаніць кадры, цаніць кожнага работніка, здольнага прынесці карысць нашай агульнай справе». Гэтыя словы правадыра нашай партыі і ўсіх працоўных усяго свету ставяць па новаму задачы раённых газет. Чытаючы ҳайскую прамову таварыша Сталіна мы зрабілі вывады для нашай работы. Трэба сказаць, што пытанні ўнутрыкалгаснай дэмакратыі, пытанні адносін да жывых людзей у нас не займалі да гэтага часу адпаведнага месца. Зараз мы пераключылі ўсю нашу ўвагу на паказ жывых людзей, на паказ ударнікаў, ударніц, аўладаўшых агро-заатэхнікай.

І тут я хачу падзяліцца вопытам, як

мы гэтую справу паказваем. І гэтае пытанне таксама будзе звязана з падборкай. Калгаснік Загавалка з 3-й брыгады калгаса імя Сталіна, Астрашыцка-Гарадзецкага сельсовета ў час работы, у час напружанай барацьбы за першынства ў конкурсе захварэў. Брыгадзір Пажытка праявіў самыя чулыя, сапраўды соцыялістычныя адносіны да захварэўшага калгасніка. Неадкладна калгаснік быў адпраўлен у сельскую бальніцу. Аказалася, што сельская бальніца дапамогі хвораму не можа аказаць. Брыгадзір Пажытка, адчуваючы адказнасць за жыцьця чалавека, парашыў, што весці яго ў Менск—за 25 кілометраў на падводзе небяспечна. Ён выклікаў «такеі» і даставіў хворага ў Менск у бальніцу. Гэты факт мы шырока і ўдала з пункту погляду афармлення падалі ў газеце. У гэты-ж дзень мы правялі гутарку з хворым, звязаліся з сельсоветам. У наступным нумары мы далі цэлую падборку.

Як мы гэту падборку арганізавалі. Мы паставілі перад сабой мэту нашым матэрыялам праілюстраваць на жывых прыкладах сказанае тав. Сталіным.

Пад шапкай «Наш урад і партыя не маюць другіх інтарэсаў і другіх турбот, акрамя тых, якія ёсць у народа» мы далі два матэрыялы, якія ярка характарызуюць гэтыя словы. У адным матэрыяле пад цытатай «Гуманізм соцыялізма —сонца, саграваючае жыццё» мы далі расказ хворага Загавалкі аб тым, якімі клопатамі і ўвагай ён абкружан, што даў яму калгас, якія шляхі адкрыты для сялянства ў нас. У другім матэрыяле пад цытатай «Гуманізм капіталізма — гэта халодны напітак буржуа, пасля знойнага дня, дзікай эксплаатацыі і зневажання чалавечай годнасці» мы перадрукавалі матэрыял з газеты «Трыбуна радзецка» аб Сабіне Беземан, жыхарцы адной з вёсак пад Беластокам, у якой цяжка захварэў 6-гадовы сын. Хлопчыка трэба было лячыць у Варшаве. Бедная матка вяла хлопчыка за руку за 200 кіламетраў. Там яго не прынялі. Матка была вымушана пакінуць дзіця ў чакальні шпіталя. За гэта яна прыцягнута да адказнасці і ёй пагражае 5 гадоў турэмнага заключэння.

Мы падалі на гэтай старонцы яшчэ матэрыялы, якія характарызуюць зверскія адносіны к чалавеку ў фашысцкай Польшчы.

Не трэба даводзіць, што такая падача матэрыялаў прыкоўвае ўвагу чытача, паказвае яму на канкрэтных прыкладах, якія магчымасці адкрыты перад кожным чэсным працоўным нашай неабсяжнай краіны. Такія падборкі карысны і неабходны ў газеце.

Безумоўна падборкай у газеце злоўжываць нельга. Мы даем у нумары **адну-дзве** падборкі, прычым ставім задачу, каб у гэтых падборках вычарпаль-на ставілася пытанне.

Падборка ў райгазеце безумоўна патрэбна, але яе трэба ўмела арганізаваць. Падборка ў газеце патрэбна, але не ва ўшчэрб апаратыўнасці ў рабоце, не ва ўшчэрб пашырэнню тэматыкі газеты.

**М. ЧАУССКІ.**

Рэдактар менскай раённай газеты «Шлях соцыялізма»



**Рэдактары калгасных насценгазет — скончыўшыя 5-дзенныя курсы пры рэдакцыі клімавіцкай газеты «Комуна». Унізе (злева направа): тт. САМУСЕЎ, КУЛІНКОВІЧ, КУРАЧОЎ (дэлегат III усебеларускага з'езда рабселькораў), ПАЧАЧУЕЎ, БАБКОЎ, ГАВАРЫТАЎ. У верхнім радзе (справа налева): ДАРАШЭНКА МАР'Я, МАСЮКОЎ М., ЦЫГАНКОЎ, АСІПЕНКА, ВАСІЛЬЕЎ, КУХАРАЎ, ХРАМЕНКОЎ, ЦЫГАНКОЎ В.**

## ПЯЦІДЗЕННІК ДРУКУ

# ГАВОРАЦЬ ЧЫТАЧЫ РАЁННАЙ ГАЗЕТЫ

**(На канферэнцыі ў калгасе «Чырвоны спецыяліст»).**





**На здымках: за чыткай газет у брыгадзе № 2 у калгасе «Чырвоны спецыяліст»; уверсе ў авале — рэдактар калгаснай насценгазеты тав. Белаблоцкая В.**

За апошні час Менская раённая газета **«Шлях соцыялізма»** значна ўзмацніла сваю работу з нізавым калгасным друкам, з рабселькорамі. Пры ўдзеле работнікаў рэдакцыі праведзены канферэнцыі чытачоў у калгасе імя Фалько, у Астрашыцка-Гарадзецкім і Менскім прыгарадным сельсоветах. На старонках раённай газеты друкуюцца выступленні рэдактароў калгасных насценгазет з перадачай вопыту работы.

На канферэнцыях чытачоў, побач з абмеркаваннем пытанняў работы раённай газеты, унесена не мала канкрэтных прапаноў для паляпшэння работы нізавога друку. Усё гэта павінна ў значнай меры спрыяць узмацненню аператыўнасці нізавога калгаснага друку, росту рабселькораў за лік лепшых ударнікаў соцыялістычнага земляробства.

* * *

10 мая Менская раённая газета правяла канферэнцыю чытачоў у калгасе **«Чырвоны спецыяліст»,** Сенніцкага сельсовета. Загадзя былі разасланы ўсім чытачам раённай газеты паведамленні аб дні, месцы і часе адкрыцця канферэнцыі. Рэдакцыя дабілася ад Белдзяржкіно пасылкі ў гэты дзень у калгас кінопераcоўкі.

У рабоце канферэнцыі чытачоў прыняло ўдзел 65 чалавек. Сюды прышлі: чытачы раённай газеты, селькоры-ўдарнікі, члены рэдкалегій, брыгадзіры калгаса, настаўнікі. Яны прышлі прад'явіць новыя запатрабаванні да сваёй раённай газеты, запатрабаванні новых людзей, выраслых калгаснікаў.

Канферэнцыя пачалася.

Тав. **Айзікаў** — парторг калгаса — спыняецца на вялікім **значэнні папулярызацыі ў раённай газеце лепшых узораў работы.** На іх вучацца адстаючыя, папулярызацыя лепшых калгасных людзей заахвочвае адстаючых. У гэтым ужо ёсць поспехі і ў нашай раённай газеце.

Зараз неабходна больш увагі аддаваць кадрам, людзям, — гаворыць тав. Айзікаў. — Якое мае патрабаванне па лініі ўзмацнення работы з нізавым друкам? Я лічу, што раённая газета, якая зараз не дрэнна звязана з нізавым друкам нашага калгаса, павінна ўжо зараз пераключыць насценгазеты на падрыхтоўку да праполкі і ўборкі. Як пераключыцца на гэту работу, аб чым сёння, пасля завяршэння сяўбы, павінны пісаць і раённая і насценная газета — вось пытанні, на якія павінна адказаць наша канферэнцыя.

**Раённая газета і моладзь.** У гэтым

тры словы член рэдкалегіі брыгаднай насценнай газеты тав. **Дойка** ўклаў вялікі змест. Ён не выказаў дэтальна сваіх меркаванняў наконт дапамогі газеты ў арганізацыі разумнага і вясёлага правядзення вольнага часу. Тав. Дойка сказаў коратка.

— Раённая газета павінна **дапамагчы калгаснай моладзі больш разумна правесці свой вольны час, свой выходны дзень.**

Гэта зусім своечасовая і вельмі каштоўная заўвага маладога калгасніка заслугоўвае таго, каб аб ёй пагаварылі і на вытворчай нарадзе ў рэдакцыі «Шлях соцыялізма». У выніку гэтай ініцыятыўнай прапановы павінен з'явіцца рад пачынанняў нізавых газет калгаса «Чырвоны спецыяліст» па арганізацыі ў выходныя дні **экскурсій** у менскія музеі, **культпаходаў** у тэатры і кіно і т. д. Калгас знаходзіцца за 6 кілометраў ад Менска, ён мае сваю аўтамашыну. Аднак, многія калгаснікі па поўгода не былі ў кіно, ні разу не наведвалі нашых музеяў, не былі ні разу ў парку, на стадыёне.

Вось чаму прапанова тав. Дойкі па арганізацыі культурнага адпачынку заслугоўвае такой увагі раённай газеты.

Рэдактар калгаснай насценгазеты **Вера Белаблоцкая—Шмельцух** расказала на канферэнцыі аб вялікім значэнні **перапрацоўкі матэрыялаў раённай газеты ў брыгадах калгаса.** Быў такі выпадак. У пачатку сяўбы раённая газета надрукавала заметку аб адставанні калгаса. Як толькі газета была атрымана, заметку прапрацавалі ў брыгадах. На другі дзень было заўважана, што тэмпы сяўбы пачалі нарастаць. І зараз калгас ужо завяршыў сяўбу яравых. Асноўнае патрабаванне т. Белаблоцкай да раённай газеты—дапамагаць на важнейшым участку нашай работы — у выхаванні маладога пакалення.

— Я яшчэ ні разу не сустрэла, каб настаўнік напісаў, што вучань такой-то школы, такіх-то бацькоў дрэнна вядзе сябе ў школе, або наадварот. Няма ў нашым друку такіх заметак, не пішам мы аб школе.

— Або возьмем **яслі.** Не думайце, што маці будзе безклапотна працаваць у полі, калі дзеці яе бегаюць па вуліцы, круцяцца каля трактара, ці коней. і наадварот, калі дзеці дагледжаны, калі яны знаходзяцца ў яслях, маці будзе ўзнімаць прадукцыйнасць сваёй работы ў полі.

Як рэдактар калгаснай насценгазеты тав. Белаблоцкая просіць раённую газету пры кожным выездзе ў калгас практычна дапамагаць у выпуску насценнай газеты, указваць, што ў ёй дрэнна, што добра, як лепш зрабіць насценную газету.

— Яшчэ адно: аб нашых поспехах. Аб іх мы часамі па сваёй скромнасці не гаворым. Але-ж чым так можна ўзнімаць энтузіязм, заклікаць на новыя перамогі, як не папулярызацыяй нашых штодзенных і разам з тым буйных дасягненняў. Раскажыце аб учарашнім і сёнешнім калгасніку, аб зменах яго ў быту.

Асобныя выступленні калгаснікаў-чытачоў былі прысвечаны пытанню **рэагавання на матэрыялы друку.** Тав. **Максіменка** расказаў, як у часе пасадкі бульбы ў звяне **Вальковіча Барыса** былі пакраваны мяхі з бульбай. Аб гэтым факце напісалі ў брыгадную штодзёнку. Але ў рэдкалегіі аказаўся сваяк каншкрэтнага вінаватага. І заметка, якая трапіла біла ў цэль, не ўбачыла свету.

Селькорка **Ярашэвіч Нона,** якая працуе на МТФ, расказала аб факце праследвання яе за выступленне ў насценгазеце супроць бруду і беспарадкаў на ферме. Калі заметка з'явілася ў насценгазеце, Нону Ярашэвіч пачалі абзываць розньмі непрыстойнымі словамі. На заметку не рэагуе праўленне калгаса, у справу не ўмешваецца парторг і ў выніку — Нона Ярашэвіч адыходзіць ад газеты.

Тав. **Шумскі** звярачае ўвагу канферэнцыі на калгасную вуліцу, на чыстату двара, на кветнікі каля хаты. Раённая газета не заўважыла таго, што ў калгасе «Чырвоны спецыяліст» уся вуліца і прысады абсаджаны пладовымі дрэвамі. А гэта-ж крупіца таго новага, чаго не было ў мінулым.

Тав. **Гурскі** — старшыня калгаса гаворыць аб прытупленні пільнасці ў асобных селькораў. — Аб усіх дробязях трэба пісаць. Але-ж нельга, каб гэтыя драбніцы засланялі сабой буйныя факты. А ў нас такі факт быў на ферме. Перарасходвалі 80 тон коранъплодаў

звыш плана. І ні адна насценгазета, ні брыгадная, ні агульнакалгасная — не напісалі аб гэтым ні слова. Не напісалі аб гэтым селькоры і ў раённую газету. І такі буйны факт у гаспадарчым жыцці калгаса прайшоў міма ўвагі.

***

7 насценных газет выходзіць у калгасе «Чырвоны спецыяліст». Вялікую работу правлі насценгазеты на сяўбе. Барацьба за высокую якасць сяўбы была галоўным у рабоце брыгадных штодзёнак. Поруч з барацьбой за якасць і тэрміны сяўбы асобныя насценгазеты, і асабліва агульнакалгасная, не прапускалі і такіх пытанняў, як барацьба за паляпшэнне работы ясляў, чыстата на ферме, калгасная лазня і т. д. Насценгазета 2 брыгады расказала, напрыклад, аб азеляненні калгаснай вуліцы і двароў пладовымі дрэвамі.

І раённая газета «Шлях сацыялізма» зробіць добра, калі ўсе гэтыя новыя пытанні, узнімаемыя ў нізавым калгасным друку, сур'ёзна ўлічыць, як і выступленні на канферэнцыі чытачоў. Чула прыслухоўваючыся да кожнай драбнюткай заўвагі чытача-калгасніка, глыбока вывучыўшы і падагуліўшы ўсе выступленні на праведзеных канферэнцыях чытачоў, рэдакцыя зможа і абавязана яшчэ больш пашырыць тэматыку масавай калгаснай газеты, яшчэ больш наблізіць газету да ўзросшых запатрабаванняў калгасніка.

**Ал. МАТУСЕВІЧ.**

# Па старонках раённых газет

## ПАКАЗ РОСТУ І ПЕРАМОГ НІЗАВОГА ДРУКУ І СЕЛЬКОРАЎ

**ОРША.** 5 мая вышаў спецыяльны нумар раённай газеты **«Ленінскі прызыў»**, прысвечаны Дню друку. На 2 і 3 старонках гэтага нумара пад аншлагам «За глыбокую і сістэматычную вучобу калгаснага рэдактара» рэдакцыя падагуліла свой вопыт разгортвання завочнай вучобы рэдактароў калгасных насценгазет і селькораў.

Газета дала слова самім селькорам, рэдактарам насценгазет, парторгам. **Бераснёў** Міхаіл — рэдактар насценгазеты калгаса «Высокая зорка» — расказаў аб велізарнай ролі, якую адыгралі ў вытворчым жыцці калгаса вышаўшыя за 18 дзён 64 нумары брыгадных насценгазет. Парторг Якаўлевіцкага сельсовета тав. **Казімірэнка** расказаў, як у выніку разгортвання работы нізавых газет выраслі рады селькораў, як па ініцыятыве перадавых рэдкалегій праведзена **ўзаемная праверка якасці работы ўсіх рэдкалегій калгасных насценгазет.**

У аддзеле «Лічбы нашых перамог» раённая газета расказала чытачам аб росце нізавога друку і селькораў раёна. Газета піша:

«У нашым раёне выходзіць 12 друкаваных газет. Іх тыраж складае 22 тысячы экземпляраў. Тыраж нашай раённай газеты дасягнуў 8 з паловай тысяч.

З ростам заможнасці і культуры калгаснікаў значна ўзрасла цяга да газеты, да кніжкі. У раён прыходзіць 18 тысяч экземпляраў рэспубліканскіх і саюзных газет і 4300 экземпляраў журналаў.

У кожным з 236 калгасаў выходзіць калгасная насценгазета. У кожным з 25 сельсаветаў выходзяць сельсавецкія штодзенкі-шматтыражкі, тыражом у сярэднім 15 экземпляраў кожная, а ў кожнай з 572 брыгад у разгар веснавой сяўбы выходзілі брыгадныя штодзенкі».

Цяпер у раённую газету «Ленінскі прызыў» піша 500 селькораў, з іх каля 100 прайшлі курс завочнага навучання.

## ПАД ЛОЗУНГАМ УЗМАЦНЕННЯ АПЕРАТЫЎНАСЦІ НАСЦЕНГАЗЕТ

СЯННО. Сенненская партыйная арганізацыя праводзіць пяцідзеннік друку пад лозунгам «умацавання ролі газеты ў барацьбе за якасць партыйна-масавай і ідэйна-выхаваўчай работы партыйных арганізацый, павышэння прапагандысцкага і культурнага ўзроўню газеты, умацавання масавай работы як раённай газеты, так і нізавога друку на рашаючых участках сацыялістычнага будаўніцтва».

Сенненскі РК КП(б)Б прапанаваў усім партарганізатарам правесці ва ўсіх калгасах і саўгасах сходы чытачоў і злёты рабселькораў і членаў рэдкалегій.

РК КП(б)Б абавязаў рэдакцыю раённай газеты **арганізаваць пры рэдакцыі габінет**

**друку** і зрабіць яго цэнтрам выхаваўчай работы з рабселькорамі. Раённая газета пачынае друкаваць на сваіх старонках паказ вопыта работы лепшых калгасных і брыгадных насценгазет. Адначасова праводзіцца рэйд праверкі рэагавання на матэрыялы друку і пісьмы працоўных.

## КАНФЕРЭНЦЫІ ЧЫТАЧОЎ

**ПАРЫЧЫ.** З 5 па 10 мая ва ўсіх калгасах і прадпрыемствах раёна праводзіцца пяцідзеннік друку. Бюро РК КП(б)Б абавязала партыйныя арганізацыі і калгасных парторгаў правесці ва ўсіх сельсоветах канферэнцыі чытачоў. Канферэнцыі праводзяцца пры актыўным удзеле рабселькораў і рэдкалегій нізавых калгасных газет. На канферэнцыях чытачоў выступяць са сваімі справаздачамі прадстаўнікі раённай і нізавых калгасных газет.

Для таго, каб вывучыць лепшы вопыт работы насценгазет на сяўбе, праводзіцца папярэдняе **абследванне нізавога друку.**

Рэдакцыя раённай газеты **«Ленінская перамога»** ў часе пяцідзенніка праводзіць **рэйд праверкі рэагавання на пісьмы працоўных** у асобных калгасах, сельсоветах і раённых установах.

З 5 па 10 мая ў раёне і пры вясковых кааператывах арганізуюцца кніжныя ларкі. У калгасах наладжваюцца выстаўкі нізавога калгаснага друку.

## 2-ДЗЕННЫ СЕМІНАР РЭДАКТАРОЎ-ЗАВОЧНІКАЎ

**БЫХАЎ.** Бюро РК КП(б)Б заслухала паведамленне рэдакцыі раённай газеты аб мерапрыемствах па правядзеню пяцідзенніка друку. 10—12 мая рэдакцыя праводзіць сельсовецкія **злёты рабселькораў і членаў рэдкалегій насценгазет.** На заводзе «Ільіч» і торфзаводзе «Чырвоная Беларусь» склікаюцца злёты рабкораў. У 5 калгасах раёна праводзяцца **канферэнцыі чытачоў.** Такая-ж канферэнцыя чытачоў раённай газеты праводзіцца і ў горадзе.

10 і 11 мая рэдакцыя раённай газеты праводзіць **2-дзенныя заняткі-семінар завочнікаў рэдактароў насценгазет.**

## ДЭКАДНІК ПРАВЕРКІ ЯКАСЦІ РАБОТЫ НІЗАВОГА ДРУКУ.

**БЯЛЫНІЧЫ.** З 5 па 15 мая бялыніцкая партыйная арганізацыя праводзіць дэкаднік друку. Рэдакцыя раённай газеты склікае сход селькораў, членаў рэдкалегій насценгазет калгасаў і ўстаноў Бялыніцкага сельсовета. У 5-ці буйнейшых калгасах раёна праводзяцца канферэнцыі чытачоў.

Бюро райкома КП(б)Б абавязала рэдакцыю раённай газеты **вылучыць аднаго з лепшых селькораў для пастаяннай работы ў рэдакцыі.**

Бялыніцкая партыйная арганізацыя адзначае Дзень друку праверкай якасці ўсёй работы нізавога друку, узмацненнем аператыўнасці брыгадных і калгасных насценгазет.

## ЗЛЁТЫ ЧЫТАЧОЎ РАЁННАЙ ГАЗЕТЫ, ЮНКОРАЎ, ПІСЬМАНОСЦАЎ

**ЧЭРЫКАЎ.** У сувязі з пяцідзеннікам друку чэрыкаўская раённая газета **«Сацыялістычная перамога»** склікае **нараду пісьманосцаў раёна.** Нарада абмяркуе пытанні паляпшэння распаўсюджання друку.

10 мая ў горадзе Чэрыкаве РК КП(б)Б і рэдакцыя райгазеты склікаюць **злёт чытачоў,** рабселькораў і членаў рэдкалегій насценгазет.

14 мая склікаецца **злёт юнкораў** і ўсіх школьнікаў чытачоў раённай газеты. Злёты заслухаюць даклады аб Дні друку і абмяркуюць задачы нізавых газет і селькораў у барацьбе за якасць сяўбы, за разгортванне сацыялістычнай жывёлагадоўлі.

Пры раённай бібліятэцы і парткабінеце арганізуецца **выстаўка нізавога друку.**

## СПРАВАЗДАЧЫ РЭДКАЛЕГІЙ НА ПАРТСХОДАХ.

**СІРОЦІНА.** У пяцідзеннік друку ў калгасах Сіроцінскага раёна праводзяцца канферэнцыі чытачоў з абавязковым удзелам брыгадных чытчыкаў. На канферэнцыі чытачоў выклікаюцца ўсе селькоры і члены рэдкалегій нізавых газет.

Бюро РК КП(б)Б у пастанове аб правядзенні пяцідзенніка друку прапануе заслухаць **справаздачы рэдкалегій насценгазет на парткомах і сходах пярвічных партыйна-комсамольскіх арганізацый,** адначасова яшчэ раз праверыць склад рэдкалегій, папоўніць іх лепшымі калгаснікамі-ўдарнікамі, забяспечыць штодзеннае партыйнае кіраўніцтва нізавым друкам.

## „УВАЖЛІВА ПРЫГЛЯДАЦЦА К ТАМУ, ХТО ПРАЦУЕ Ў АПАРАЦЕ ГАЗЕТЫ“ (Стэцкі)

# АФЕРЫСТ У РЭДАКЦЫІ ГАЗЕТЫ

У верасні 1934 года ў рэдакцыю газеты «Чырвоная Полаччына» быў прыслан у якасці намесніка рэдактара **С. Богуш.** Толькі два месяцы прапрацаваў Богуш у Полацку. Але і за гэты кароткі тэрмін паспеў натварыць такіх спраў, што партарганізацыя рэдакцыі рашыла выключыць яго з партыі. Полацкі РК КП(б)Б зацвердзіў гэта рашэнне.

Учынкі Богуша за гэтыя два месяцы варты таго, каб аб іх ведалі ўсе работнікі нашых газет. Тым больш, што падвалы і нарысы гэтага аферыста часта з'яўляюцца на старонках «Калгасніка Беларусі», журнала «Работніца і калгасніца Беларусі» і некаторых раённых газет.

Ужо з першых дзён сваёй работы ў рэдакцыі Богуш праяўляе сябе, як гогалеўскі Хлестакоў. Ён выдае сябе за пісьменніка Анатоля Вольнага, бярэцца кіраваць літаратурным гуртком.

На першых занятках літгуртка Богуш расказвае, як ён, «Анатоль Вольны», пісаў сцэнарыі, як ён пісаў аповесць «Два», як уважліва падыходзіў да кожнага слова. Ён раіць маладым ударнікам, закліканым у літаратуру, вучыцца на гэтых яго творах. Гурткоўцы слухалі яго з вялікай увагай. Яны былі бязмерна рады, што нарэшце ў Полацк прыехаў чалавек досыць вядомы ў беларускай літаратуры.

Праходзіць некаторы час. У «Звяздзе» напярэдадні гадавіны Окцябра з'яўляецца палаеа, прысвечаная Оршы. Палаеа падпісана Анатолем Вольным. Уже ведалі, што Богуш «Вольны» нікуды ў гэты час з Полацка не выязджаў. Хто-ж гэта за Вольны, які піша ў «Звяздзе»—недаўмявалі літгурткоўцы. Даведаўшыся пра гэта, я выкрыў перад літгурткоўцамі самазванства Богуша, а яму катэгарычна прапанаваў спыніць свае хлестакоўскія выхадкі.

Першая няўдача не збянтэжыла Богуша. Ён расказвае рэдакцыйным работнікам аб сваіх гераічных учынках на Далёкім Усходзе (дзе ён, да рэчы, ніколі не быў), аб атрыманні ўзнагароды (залатыя гадзіннік) за гераізм, аб тым, як ён камандаваў авіяэскадрыльяй (у якой не служыў), аб падарожжы ў Турцыю




С. Богуш у галоўных ролях. Карыкатура М. МАЛЕВІЧА.

(якога не было) і інш. неправўдападобныя гісторыі.

Райком партыі пасылае Богуша ў Сястронскі сельсовет. Там ён рэкамендуе сябе намеснікам сакратара райкома. Пазней у другім сельсовеце Богуш выдае сябе за ўпаўнаважанага ЦК КП(б)Б.

Будучы ўпаўнаважаным РК КП(б)Б, Богуш п'янствуе ў сельсоветах. У Домнікаўскім сельсовеце ён сёння знаёміцца з настаўніцай, на заўтра жэніцца на ёй, праз дзень хадайнічае перад райана аб аслабаненні «жонкі» з работы на вёсцы. Праз некалькі дзён ён прапануе машыністцы рэдакцыі выйсці за яго замуж. Яшчэ некалькі дзён — і ён робіць такую-ж прапанову работніцы друкарні. У гэты-ж час на імя Богуша прыходзіць пісьмо з Рэчыцы, ад жонкі, якую ён пакінуў з маленькім дзіцём. Яшчэ праз невялікі час на адрас рэдакцыі прыбывае пісьмо ад... другой жонкі з Гомеля.

На гэту тэму ў нас з Богушам быў сур'ёзны разгавор. Пагаварылі з ім і ў райкоме партыі. Богуш дае слова выправіць «памылкі», узяць сябе ў рукі і інш.

Так праходзіць некалькі тыдняў. На партыйны ўчот Богуш не бярэцца, тлумачыць тым, што ён згубіў партыйную ўчотную картку пры пераездзе ў Полацк. Праз газету ён друкуе аб'яву аб тым, што картка за нумарам такім-то згублена.

У адзін з выходных дзён Богуш паяўляецца ў рэдакцыі ў нецвярозым стане. Ён гаворыць сакратару рэдакцыі комсамольцу Есьману: «Я ніколі не быў членам партыі і ніякіх картак не губляў». Калі пра гэта даведаліся комуністы рэдакцыі, быў склікан партсход. Ад Богуша патрабавалі прад'явіць партдакументы. Прышёрты да сценкі, ён раскрывае партфель, вымае партыйную ўчотную картку і заяўляе: «Я яе аставіў сабе, на ўсякі выпадак»...

Для нас стала ясным, што мы маем справу з жулікам, выпадкова трапіўшым у партыю. Калі пытанне аб партыйнасці Богуша было перанесена ў райком партыі, Богуш уцёк з работы ў рэдакцыі невядома куды, нікому нічога не сказаўшы.

Характарыстыка Богуша будзе няпоўнай, калі хоць коратка не расказаць аб яго газетнай рабоце.

Богуш паведамляе з калгаса «КІМ», Ветрынскага сельсовета, аб тым, што сельсовет скончыў ільнозагатоўкі. Праходзіць 5 дзён, і мы даведваемся, што і на гэты дзень калгас яшчэ не выканаў плана.

Богуш піша нарыс аб свінатаварнай ферме калгаса імя Сталіна, дзе па яго словах ёсць 200 свінаматак. У сапраўднасці ў калгасе няма не толькі такой колькасці свінаматак, але і свіней разам з парасятамі не набярэцца столькі.

Богуш апісвае работу калгасніка Насуха Фёдара, рэкамендуе яго, як лепшага ўдарніка, які варты быць выбраным у склад сельсовета. На справе гэты «ўдарнік» аказаўся найгоршым лодырам.

**
*

Пасля таго, як Богуш уцёк з Полацка, ён апынуўся ў рэчыцкай райгазеце. Там ён заявіў, што быў у Полацку, у Сястронскім сельсовеце на **медычнай практыцы** (?!). Тав. **Кузняцоў** (былы рэдактар рэчыцкай райгазеты) хутка выкрыў сапраўдны твар Богуша і выгнаў яго з рэдакцыі. Але «курылка» жыў: Богуш зараз працуе ва ўваравіцкай райгазеце. Запаўняе яе старонкі сваімі нарысамі, артыкуламі і інш.

Да ўвагі рэдактароў. Богуш мае пяць псеўданімаў: **Богуш — Тамілін—Вольны—Віхроў—Гартман.**

**Б. ЗЕЛЬМАНАЎ.**

(рэдактар газеты «Чырвоная Полаччына»).

# ПІША КРАСЕНКА МІХАСЬ, А АДКАЗВАЮЦЬ КРАСЕНКУ ЦІМОХУ

Шмат заметак паслаў я ў рэдакцыю брагінскай раённай газеты **«Трыбуна калгасніка»**. Але чамусці многія мае заметкі не толькі не змешчаны ў газеце, але я нават адказу на іх ад рэдакцыі не атрымаў.




Прывяду толькі некалькі маіх заметак, якія асталіся без адказу. Пісаў я ў газету аб мікуліцкім сельпо, аб рабоце бібліятэкі, аб культмасавай рабоце. А што зроблена з гэтымі заметкамі — не ведаю.

Напісаў я аб рабоце мікуліцкай ячэйкі Асоавіяхіма. Атрымаў паведамленне ад рэдакцыі, што заметка гэта будзе змешчана ў друку, але на старонках газеты я і да гэтай пары яе не ўбачыў.

А бывае і яшчэ горш.

Я вучуся на брагінскіх педагагічных курсах. Здарылася так, што загадчык курсаў невядома па якой прычыне не выдаў мне за адзін месяц стыпендыі. Напісаў я аб гэтым у газету. Сакратар рэдакцыі **Крус** арыгінал заметкі, не патурбаваўшыся нават выкрасліць або адрэзаць ад яе мой подпіс, пасылае на расследванне... таму-ж самаму загадчыку курсаў **Гусакову,** на якога я скардзіўся. Тое-ж самае Крус зрабіў і з другой маёй заметкай аб дрэннай рабоце загадчыка курсаў, паслаў яе зноў такі на расследванне самому Гусакову.

Гэтыя факты не выпадковыя. Бывае, пашлеш заметку ў рэдакцыю, не паспее яна з'явіцца на старонках газеты, а людзі, пра якіх пісаў, ужо ведаюць і змест і аўтара заметкі. Картатэку ўліку селькораўскіх заметак з-за нядбайнасці сакратара рэдакцыі можа разглядаць кожны, хто захоча.

Аб тым, як адносяцца работнікі брагінскай газеты да селькораўскіх заметак, гаворыць і такі факт. Аднаго разу я атрымаў адказ на заметку, якой ніколі не пісаў. Аказваецца, адказ трэба было паслаць **Красенка Міхасю,** а паслалі мне — **Красенка Цімоху.**

Паслаў я ў газету і некалькі вершаў. У газеце яны надрукаваны не былі. Рэдакцыя ні разу мне не напісала аб маіх вершах, чаму іх нельга змясціць: ці напісаны яны дрэнна, ці тэма не падыходзіць, ці яшчэ якія-небудзь заганы ў іх ёсць. Так я і не ведаю — добрыя мае вершы, ці дрэнныя.

Такі лёс не толькі маіх заметак. Такі лёс заметак многіх селькораў брагінскай газеты. Рэдактару газеты т. **Пецярэнка** не пашкодзіла-б праверыць работу сваіх супрацоўнікаў, навесці большэвіцкі парадак у рэдакцыі.

**Ц. КРАСЕНКА.**

**в. Мікулічы, Брагінскі раён.**

Крытычныя заметкі

# Бракаробы ў жыткавіцкай газеце

Да чаго прыводзіць неахайнасць у апрацоўцы матэрыялаў, змешчаных у газеце, выразна паказваюць старонкі жыткавіцкага **«Прымежнага комунара».**

Возьмем перадавы артыкул нумара «Прымежнага комунара» ад 20 красавіка: «Узмацніць класавую рэволюцыйную пільнасць».

Як-жа напісан артыкул на такую выключна сур'ёзную тэму? Надзвычай неахайна, безадказна. Не будзем галаслоўнымі.

Вось вытрымка з гэтага перадавога:

> **«Рэшткі класавых ворагаў будуць імкнуцца ўсямерна пашкодзіць умацоўваць калгасы (ЯКАСНА ПРАВОДЗІЦЬ ВЯСЕННІ СЕЎ, ЗРЫВАЦЬ ПРАЦОЎНУЮ ДЫСЦЫПЛІНУ І ІНШ.») (Падкрэспена намі. РЭД. — «Б. Д.»).**

Выходзіць, класавы вораг будзе імкнуцца высокаякасна праводзіць веснавую сяўбу і іменна гэтым шкодзіць умацаванню калгасаў. Так можна зразумець гэты шкодны сказ у перадавым артыкуле.

У гэтым-жа перадавым артыкуле пад-пал класавымі ворагамі канюшні ў калгасе «Чырвоная Дзедаўка» (у часе пажару згарэла 28 коней) газета расцэньвае як.. праступак. Так і напісана.

> **«Класавым ворагам удалося прарабіць гэты праступак».**

І такія рэчы пішуцца ў перадавым аб узмацненні рэволюцыйнай пільнасці. Толькі прытупленнем рэволюцыйнай пільнасці ў рэдактара газеты т. **Дзятлоўскага** можна тлумачыць з'яўленне ў газеце такіх сказаў.

**
*

Праз дзень — 21 красавіка выходзіць чарговы нумар газеты. Якой мовай гаворыць газета з чытачамі ў гэтым нумары?

Чытаем артыкул **В. Сухоцкага** аб распрацоўцы Прыкладнага статута сельгасарцелі.

> **«Але трэба сказаць, што на вялікі жаль у большасці калгасаў нашага раёна распрацоўка статута ў час сяўбы не наладжана. Больш гэтага, яна зусім не праводзілася ў час падрыхтоўкі да сяўбы, а ў некаторых калгасах злосна парушаецца».**

Дык што-ж усё такі: не наладжана толькі як след распрацоўка статута, ці зусім не праводзіцца? Што злосна парушаецца: прапрацоўка статута, ці самы статут?

Побач з артыкулам В. Сухоцкага ідзе артыкул **Наймарка** «Па-баявому ўключыцца ў сяўбу». Тут яшчэ горш. Наймарк умудраецца сцвярджаць, што

> **«Комсамольская арганізацыя калгаса «Надубава-Чарацянкі» ў асноўным моцная. Маюцца паказальныя для ўсёй арганізацыі раёна прыклады»,**

а пяцю радкамі ніжэй заявіць аб адсутнасці ў Надубава-чарацянскай комсамольскай арганізацыі масавай работы, што **«палітшкола, не працуе, сходы не склікаюцца»,** арганізацыя не ўключылася ў барацьбу за тэмпы і якасць сяўбы.

Палітшкола не працуе, комсамольскія сходы не праводзяцца, масавай работы няма, за паспяховае правядзенне сяўбы комсамольцы не змагаюцца, а арганізацыя, паводле газеты, «у асноўным моцная», мае прыклады «паказальныя для ўсяго раёна». І яшчэ адна маленькая дэталь. Наймарк абвінавачвае комсамольца Кляпусевіча:

> **«Палітшколы і сходы ён не наведвае, лічыць гэта непатрэбным».**

Але-ж па заяве самога Наймарка палітшкола не працуе, сходы комсоргам не склікаюцца. Што-ж наведваць комсамольцу Кляпусевічу?

А рэдакцыя «Прымежнага комунара» змяшчае гэты матэрыял у такім выглядзе на старонках газеты.

**
*

Некалькі прыкладаў стылістычнай і граматычнай апрацоўкі матэрыялаў у рэдакцыі жыткавіцкай газеты.

> **«Як толькі затапілі агонь выскакваў на крышу, а малочная стаіць ра-**

дам з свінарнікам, што пагражае здарыцца пажару». (№ ад 21 красавіка).

«Быўшы брыгадзір Сінькевіч нядбайна адносіўся да працы, разбазарыў кармы, і як вынік на весну жывёлы, прыходзілася падымаць усе цяляты былі ў лішаях, двое з іх, адна карова пала». (№ ад 1 мая).

«Газета, ЗМАГАЮЧЫСЯ З ЗАХАВАННЕМ КАНЯ дабілася ад праўлення паставіць лепшых калгаснікаў конюхамі. Гэтых поспехаў газета дабілася ДЗЯКУЮЧЫ АКРУЖЭННЯ ВАКОЛ СЯБЕ калгаснага актыва і селькораў». (№ ад 5 мая. Падкрэслена ўсюды намі. — РЭД. «Б. Д.»).

І, нарэшце, вытрымка з заметкі «Першае спаборніцтва» (№ ад 11 мая).

«Гэта першае спаборніцтва (спаборніцтва двух валейбольных каманд (РЭД. «Б. Д.») у гэтым годзе, хоць трэба адзначыць добрую ігру асобных ігракоў (БЯЛЕНЧЫК, КАЛІКОЎСНІ) якая паказала, што ў ігры ўсёй 1-й каманды РДСК адчуваецца неспасованасць — несыгранасць, а вынік адсутнасці НАЛЕЖНАЙ ТРЭНІРОЎКІ».

У заключэнне трэба сказаць словамі самой газеты: у рэдакцыі

«не прыняты меры супроць некаторых нядбайных адносін».

Толькі адну невялічкую папраўку неабходна зрабіць да гэтых слоў. Прыняць меры трэба не супроць «некаторых нядбайных адносін», а супроць работнікаў рэдакцыі, якія нядбайна, безадказна адносяцца да даручанай ім важнейшай работы.

## „НЕ ТРАПІЛІ НА ГЭТЫ РАЗ, ТРАПІМ ДРУГІМ РАЗАМ“

Рашыла рэдакцыя **«Віцебскага пролетарыя»** ў дзень 17 гадавіны Чырвонай арміі выступіць з аглядам нізавой газеты па пытаннях абароннай работы. Выбрала шматтыражку завода імя Кірава (б. «Чырвоны металіст»).

Пакапаўшыся ў апошніх нумарах шматтыражкі, не знайшоўшы ў іх нічога, за што-б можна было пахваліць газету (бо ў 10 нумарах «Кіраўца» надрукаваны толькі 2 заметкі аб фізкультуры), аўтары агляду ўсё-ж рашылі хоць злёгку, але пахваліць газету, пахваліць хоць-бы за тое, што на заводзе ёсць 35 варашылаўскіх стралкоў, 367 членаў Асоавіяхіма (а рабочых на заводзе звыш 700).

**«НА ЗАВОДЗЕ «ЧЫРВОНЫ МЕТАЛІСТ» ІМЯ КІРАВА, — піша «Віцебскі пролетарый» — АСОАВІЯХІМАЎСКАЯ ЯЧЭЙКА, ЯКАЯ НАЛІЧВАЕ 367 ЧАЛАВЕК, РАЗГАРНУЛА ВЯЛІКУЮ РАБОТУ ПА ПЕРАТВАРЭННЮ ЗАВОДА Ў ЦЫТАДЭЛЬ АБАРОНЫ».**

Але... здарыўся непрыемны казус:

У той-жа дзень, калі ў «Віцебскім пролетарыі» з'явіўся гэты агляд, заводскія арганізацыі прынялі рашэнне, у якім адзначылі... **правал на заводзе асоавіяхімаўскай работы, за што знят з работы ўпаўнаважаны совета Асовіяхіма.**

Агляд на старонках «Віцебскага пролетарыя» з'явіўся не 23 лютага, а 1 сакавіка. Калі рэдакцыя «Віцебскага пролетарыя», змяшчаючы агляд, не магла ўлічыць, што заводскія арганізацыі ацэньваюць становішча асоавіяхімаўскай работы на заводзе зусім інакш, чым аўтары агляду, то ва ўсякім разе яна магла і павінна была ўлічыць ацэнку, даную гэтай рабоце самой аглядаемай шматтыражкай. А шматтыражка **23 лютага** ў сваім перадавым артыкуле пісала, што **работа Асоавіяхіма на заводзе правалена.**

У заключэнне адна невялічкая дэталь. Калі мы заявілі работнікам ваеннага аддзела «Віцебскага пролетарыя» тт. **Раскіну і Клупту,** што так агляды нельга «фабрыкаваць», то атрымалі адказ: «Калі не трапілі на гэты раз, то ў другі раз так трапім, што прама ў мэту пападзем».

Ці можа быць карысць ад такіх, з дазволу сказаць, «аглядаў», як гэты агляд у «Віцебскім пролетарыі»? Безумоўна, ніякай. Такі агляд з'яўляецца «мядзведжай паслугай» і рэдакцыі шматтыражкі, і трыкутніку завода.

**Рэдактар шматтыражкі «Кіравец»**

**А. ПІМШТЭЙН.**

**Завод «Чырвоны металіст» імя Кірава, Віцебск.**

В у с т а б у рэдактара

# Рэдактар і яго роля ў газеце

**(З падручніка «Рэдагаванне і масавая работа бальшэвіцкага друку»).**

Ф. Энгельс у сваёй рабоце «Карл Маркс і «Новая рэйнская газета» даў наступную класічную фармулёўку ролі рэдактара ў сапраўды партыйнай, у сапраўды пралетарскай газеце:

«Канстытуцыя рэдакцыі зводзілася к простай дыктатуры Маркса. Для вялікай штодзеннай газеты, якая павінна выходзіць у пэўны час і якая хоча праводзіць пэўныя погляды, іншая канстытуцыя і немагчыма. Да таго-ж для нас дыктатура Маркса была чымсьці самім сабой разумеючымся, бясспрэчным і ўсе ахвотна прымалі яе. Дзякуючы галоўным чынам яго праніцальнасці і цвёрдасці яго поглядаў газета стала самым выдатным нямецкім органам рэволюцыйных гадоў».

Павышаная асабістая адказнасць рэдактара, аднаўладства яго выцякаюць з самой сістэмы арганізацыі рэдакцыйнай работы. Перад партыйнай арганізацыяй за палітычную лінію газеты, за выкананне партыйных дырэктыў адказвае рэдактар. Праз яго партыя кіруе рэдакцыйным калектывам, ажыццяўляе сваё ўздзеянне на найшырэйшыя масы працоўных — чытачоў газеты.

**Рэдактар бальшэвіцкай газеты аднача-сова і адзінаначальнік, і сапраўдны арганізатар усяго рэдакцыйнага калектыва, і старшы таварыш.** Іменна спалучэнне гэтых трох якасцей і дае нам сапраўдны тып бальшэвіка-рэдактара. Велізарны вопыт, накоплены бальшэвіцкай партыяй па кіраўніцтву сваімі органамі друку, і ў першую чаргу вопыт геніяльных рэдактароў нашай партыі — тт. Леніна і Сталіна, дае магчымасць сфармуляваць асноўныя патрабаванні, якія партыя прад'яўляе да рэдактара.

Якавы гэтыя патрабаванні?

1. **Ідэйная вытрыманасць, бальшэвіцкая прынцыповасць у падыходзе да з'яў, строга партыйны падыход, дастатковая палітычная граматнасць.** «Толькі ясны тэарэтычны погляд можа паказаць правільны шлях у лабірынце фактаў» (з пісьма Энгельса да Конрада Шмідта ад 17 кастрычніка 1889 г.). «Хто бярэцца за прыватныя пытанні без папярэдняга вырашэння агульных, той непазбежна павінен будзе на кожным кроку, бессвядома для сябе, натыкацца на гэтыя агульныя пытанні» **(Ленін).**

Без наяўнасці гэтых якасцей немагчыма весці газету на неабходным партыйным ідэйным узроўні, немагчыма ажыццяўленне арганізатарскай функцыі газеты.

2. **Сапраўднае веданне жыцця** рабочых, калгаснікаў, спецыялістаў, уменне выкарыстаць гэта веданне для мабілізацыі мас на вырашэнне задач, якія стаяць у даны момант перад партыяй.

3. **Уменне быстра і правільна рэагаваць на нова-ўзнікаючыя з'явы,** уменне адддзяляць буйныя пытанні ад дробязей.

4. **Чулы падыход да кожнага аўтара,** кожнага рабочага, калгасніка, які прыходзіць у рэдакцыю. Асаблівую ўвагу к маладым аўтарам. Ленін па-рознаму падыходзіў да старых супрацоўнікаў, людзей, якія ў поўнай меры ўстаяліся, і да маладых работнікаў, членаў партыі, якія толькі пачыналі пісаць, звязвацца з газетай.

«Калі Владзімір Ільіч бачыў, што малады пачынаючы аўтар па нявопытнасці, па захапленню робіць нават прынцыповыя памылкі, але здолен вучыцца, Владзімір Ільіч не шкадаваў ніякага часу, каб яму дапамагчы. Ён не раз, а два і тры разы быў гатоў перапраўляць артыкул гэтага аўтара, пакуль ён не прыме належны выгляд. Пры праўцы артыкула Владзімір Ільіч стараўся не сцерці індывідуальнасці аўтара. Яшчэ часцей бывала, што Владзімір Ільіч растлумачваў заўсёды вельмі асцярожна, часта намёкамі, аўтару, якія папраўкі трэба ўнесці ў артыкул» [1]).

5. **Быць сапраўдным адзінаначальнікам, сапраўдным кіраўніком,** будаваць работу газеты так, каб усе яе этапы і працэсы,

[1]) Н. Крупская — «Будем учиться работать у Ленина».

пачынаючы з момэнта паступлення пісьма і канчаючы выпускам газеты, кіраваліся і кантраляваліся самім рэдактарам. Найлепшы ўзор рэдактарскай работы дае т. Ленін.

«Надзвычай характэрная дэталь — Владзімір Ільіч сам правіў карэктуру усёй газеты. Гэта рабілася не таму, што некаму было правіць карэктуру (я быстра прыстасобілася да гэтай справы), а таму, што яго турбавала, каб не прайшла якая-небудзь памылка. Ён чытаў спачатку сам карэктуру, потым даваў мне, потым яшчэ раз глядзеў сам.

І так ва ўсім» [1]).

6. Будучы адзінапачальнікам, несучы поўную адказнасць перад партыйнай арганізацыяй за палітычную і арганізацыйную лінію газеты, за кожнае яе выступленне, рэдактар павінен **у максімальнай меры выкарыстаць метады калектыўнасці для ўсямернага паляпшэння работы газеты.**

«Калектыўнасць у рабоце газеты характэрна для Владзіміра Ільіча. І тут трэба адзначыць, што Владзімір Ільіч падыходзіў не з фармальнага боку. Справа не ў тым, каб ставіліся на галасаванне ўсе пытанні, а справа ў тым, каб яны ўвесь час абмяркоўваліся» **(Н. Крупская).**

Сутнасць калектыўнасці ў газетнай рабоце ў тым заключаецца, каб рэдактар **па магчымасці больш поўна выкарыстаў увесь вопыт,** накоплены рэдакцыйным калектывам у мэтах найбольш узорнай арганізацыі газетнай справы. Формай ажыццяўлення метадаў калектыўнага кіраўніцтва ў газеце з'яўляюцца рэдакцыйныя нарады, нарады актыва газеты, чытацкія канферэнцыі, нарады па асобных кампаніях і т. д.

7. **Рашаючае ў рабоце рэдактара — гэта работа над пісьмом.** Для рэдактара заводскай, палітаддзельскай і раённай газеты адзіна правільным падыходам з'яўляецца: **кожнае пісьмо ідзе да супрацоўніка толькі пасля таго, як яно пабывала ў рэдактара.** Чытанне ўсёй карэспандэнцыі патрэбна рэдактару не толькі для таго, каб змагчы правяраць работу свайго апарата, а галоўным чынам для таго, каб правільна па-бальшавіцку весці газету.

Уважлівае чытанне пісем, іх вывучэнне і сістэматызацыя з'яўляюцца **важнейшым** матэрыялам, асновай для планавання газетнай работы. Рабочыя і калгасныя пісьмы падказваюць рэдактару, якія змены і дадаткі неабходна ўнесці ў план работы, якія новыя пытанні трэба паставіць, якія пытанні павінны быць спецыяльна вывучаны. Ленін надаваў выключнае значэнне рабочым пісьмам, іменна як важнейшаму інструменту, дапамагаючаму ўлічваць настрой мас, выяўляць іх патрэбнасць. У пісьме да Наскова-Глебава Ленін патрабаваў забеспячэння ўдзелу ў газеце па магчымасці большай колькасці нізавых партыйных работнікаў. Ён пісаў:

«Орган будзе жывым і жыццёвым толькі тады, калі на пяток кіруючых і пастаянна пішучых літаратараў прыдзецца пяцьсот і пяць тысяч работнікаў нелітаратараў. ...Неабходна, каб з намі перапісваўся як можна большы лік партыйных работнікаў, іменна «перапісваўся» ў звычайным значэнні, у нелітаратурным значэнні слова» [1]).

Гэта ленінскае ўказанне захоўвае сваю сілу і сёння. На вопыце «Праўды» лягчэй за ўсё пераканацца ў значэнні рабочага пісьма для арганізацыі ўсёй рэдакцыйнай работы. Пісьмы, якія атрымлівае «Праўда», нярэдка з'яўляліся першапрычынай пастаноўкі буйнейшых пытанняў на старонках газеты.

8. **Рэдактар — выхавальца і кіраўнік рэдакцыйнага калектыва.** Правільна кіраваць рэдакцыйным калектывам — гэта значыць адначасова выхоўваць работнікаў, дабівацца павышэння іх газетнай і агульнапалітычнай кваліфікацыі.

«Партыйны кіраўнік павінен быць не толькі арганізатарам, адміністратарам, але выхавальцам членаў партыі»! **(Л. Кагановіч).** Гэта ўказанне мае асаблівае значэнне для арганізатараў друку, для рэдактароў. Штодзенныя лятучкі, нарады па плану — гэта не толькі нарады, дзе абмяркоўваюцца пытанні арганізацыі работы рэдакцыі ў вузкім сэнсе гэтага слова (планы нумароў, кампаній і т. д.), гэтыя нарады павінны выконваць ролю школы для кожнага газетнага работніка. Рэдактар абавязан кожную такую нараду выкарыстаць для таго, каб на канкрэтных

[1]) Н. Крупская — «Будем учиться работать у Ленина».

[1]) Ленін, т. VI, стар. 374.

прыкладах вучыць партыйнаму падыходу да з'яў, вучыць прымяняць марксісцка-ленінскую метадалогію пры аналізе канкрэтных з'яў жыцця заводаў, фабрык, калгасаў і соўгасаў.

9. **Праўдзівасць, дакладнасць вылажэння** — важнейшы элемент работы кожнага рэдактара.

«Владзімір Ільіч заўсёды амаль усё прачытваў сам, што ішло ў нумар газеты, або давяраў гэта чытанне асабліва адказным таварышам. Яго заўсёды турбавала: ці няма чаго-небудзь няверпага ў артыкуле або ў карэспандэнцыі? Калі аўтар быў недастаткова вядомы, ён абавязкова правяраў сам або даручаў каму-небудзь праверыць цытаты, на выбарку лічбы, сам падлічваў статыстычныя табліцы і інш. і нярэдка адкрываў жудасныя памылкі. Шчапяцільны да дробязей у правільнасці перакладу з іншаземных моваў, ён патрабаваў чоткасці мовы і, калі сустракалася якое-небудзь слова або выраз, які можа мець іншае значэнне або перадаць іншы сэнс, ён нярэдка ставіў у дужках гэта слова або выраз на той іншаземнай мове, з якой робіцца пераклад.

Але асабліва яго заўсёды заклапочвалі карэспандэнцыі аб нашым унутраным расійскім жыцці. З незвычайным чуццём ён улаўліваў фальш у паведамленнях і ўсё колькі-небудзь падазронае ў сэнсе праўдзівасці зараз-жа выкідваў. Нават у нелегальныя часы ён даручаў правяраць найбольш важныя паведамленні і патрабаваў ад таварышоў, жывучых нелегальна ў Расіі, даставаць розныя дакументы, на дакладнай падставе якіх пісаў сам і даручаў іншым пісаць кіруючыя артыкулы» 1).

10. **Непасрэдна сачыць за давядзеннем кожнай справы да канца,** дабіваючыся дзейснасці кожнага газетнага выступлення, забяспечваючы сапраўдны бальшавіцкі кантроль выканання ў рабоце рэдакцыі. Праверка выканання ў рэдакцыі — гэта не толькі праверка выканання даных рэдактарам распараджэнняў. **Гэта перш за ўсё праверка рэзультатаў дзейнасці самой газеты, праверка таго, як знішчаюцца недахопы, аб якіх газета пісала, як выкарыстоўваецца станоўчы вопыт, асветлены газетай.** Вось чаму праверка выканання ў газеце з'яўляецца і не можа не з'яўляцца арганічнай састаўной часткай работы ўсяго рэдакцыйнага калектыва і ў першую чаргу самога рэдактара.

---

1) В. Бонч-Бруевіч. «Большевистские издательские дела», стар. 12—12 ,

# З М Е С Т




**Менск, друкарня „Звязды". Здана ў набор 16—V-35 г. Падпісана да друку 23—V—35 г.**
**Уп. Галоўлітбела №—2.883 Тыраж 1.200 экз. 2 з чвэртк. друк. арк. У арк. 75.000зн**